Літаратурная Беларусь

Выпуск № 4 (212) (красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

Змест





# Красавік паэзіі

Янка КУПАЛА

## Явар і каліна

*Песняй вясны лебядзінаю,*
*Скінуўшы зімнія чары,*
*Шэпчуцца явар з калінаю*
*Ў сумнай даліне над ярам.*

*Лісцікі зеленяй хваляцца*
*Небу панятлівай мовай:*
*Росамі мыюцца раніцай,*
*Песцяцца сонцам паўднёвым.*

*Захадам модлы пакорныя*
*З маткай-зямлёй адпраўляюць;*
*Тайна у ночаньку чорную*
*Месяца, зор выглядаюць.*

*Слухаюць смехаў русалчыных,*
*Лопату крылляў начніцы,*
*Ветру паневаў ап'янчаных,*
*Плюскату шклістай крыніцы.*

*Чуецца музыка дзіўная*
*Ў повесцях сонных імшараў...*
*Цешыцца явар з калінаю,*
*Скінуўшы зімнія чары.*

Максім ТАНК

***

*Пад вечар пацеркі густыя*
*з краплёў пасыпаў красавік.*
*Ты чутка слухаеш, прынік,*
*як звоняць перлы вадзяныя.*

*Ў іх зззяе захад і усход,*
*зор шафіровае праменне,*
*яны прапаляць да карэння*
*празрысты, тонкі, сіні лёд.*

*Спадаюць кроплі цяжка, роўна.*
*І неяк сумна аднаму,*
*і сам не ведаеш, чаму*
*не можаш слухаць іх спакойна,*
*глядзець, як зорная рака*
*далёкі небасхіл калыша...*

*І новай моладасці пішаш*
*Ўсю ноч пад звон красавіка.*

Наталля АРСЕННЕВА

## Красавік

*Неба сіняе, сіняе, сіняе...*
*Ані межаў у ім, ані дна.*
*На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю*
*Пазірае мне ў вочы вясна.*
*Лазнякі срэбным пухам акрыліся,*
*Вецер пыл па-над імі мяце,*
*Тут — пралескі ў раўку затаіліся,*
*Сірацінай фіялка цвіце,*
*Там — жаўцеюць вяночкі вясновыя*
*Красак нейкіх нязнаных яшчэ,*
*Там — ізноў — залатыя, ліловыя...*
*З іх вясна дываны свае тчэ.*
*Як тут ціха, ні гулу, ні гоману,*
*Пачынае нат сум засынаць,*
*Ды душою жывою, нястомнаю*
*Чую ўсё ж я, што ўсюды вясна.*
*І нічога мне ўжо не жадаецца,*
*Ні кахання, ні светлых мінут,*
*У душы маёй штосьці зрываецца,*
*Што няўзнак адцвітае, а тут —*
*Тут фіялкі цвітуць цёмна-сінія,*
*Сеюць водар салодкі вясны,*
*Што брыдзе прыгажуняй-княгіняю,*
*Рассыпае вясновыя сны.*



Фота pxhere.com

Анатоль ВЯЛЮГІН

## Бярозавік

*Зялёны дым: услед узнятай слонцы*
*Арэшнік пылу воблака атрос.*
*Нібы ў палац, сюды заходзіць сонца —*
*У мокрым лесе светла ад бяроз.*

*Вартуе глуш сарока-белабока,*
*І з непазбыўнай прагаю глядзіш:*
*Шурпаты ствол надрэзаны глыбока,*
*Са звонам кропля падае ў гладыш.*

*Да латака мурашкі і пралескі*
*З усіх прагалін збегліся на пах.*
*Бярозавікам пахнуць пералескі,*
*Блакіт і пена на ружовых пнях.*

Васіль ВІТКА

## Пачатак вясны

*Уначы ля цёплае вярбы,*
*У лістах стуліўшыся, вясна*
*Веек не магла падняць ад сна,*
*Толькі з рэхам жураўлінае трубы*
*Ранкам прахапілася яна.*

*Адгрымеў за вёскай крыгалом.*
*Вылецела з вулею пчала,*
*І дзяўчынка з гладыша нагбом*
*Першы сок бярозавы піла.*

*І такім прыгожым здаўся твар,*
*Блізкі мне да кожнае сузлінкі,*
*Сонца красавіцкага загар*
*З першаю вясновай рабацінкай.*

Данута БІЧЭЛЬ

## Коцікі

*Коцікі спалі*
*ў цесных каморках.*
*Ды ручаінкі*
*звіняць на пагорках.*

*Коцікі селі*
*на кусцік вярбовы,*
*грэюць на сонцы*
*жоўтыя бровы.*

Віктар СТРЫЖАК

## З натуры

*Хіба можна не спыніцца —*
*Гэта варта пагля дзець:*
*Красавік вясне спадніцу*
*Задзімае да грудзей...*

*А яна плыве па скверу,*
*Як і раньш у шмат вякоў.*
*І смяецца з вакамераў*
*Звар'яцелых мужыкоў...*

*Я і сам як укапаны.*
*І не зводзячы вачэй...*
*Ці паненка то, ці пані?*
*А спадніца — да плячэй...*

Анатоль ІВАШЧАНКА

## Бярозавік

*абдымаю дрэва*
*прыхінаюся скронню да яго цела*
*слухаю наш супольны*
*старажытны пульс...*
*падыходзіць ззаду дачка*
*«тата тата што ты робіш?*
*табе дрэнна тата?»*
*«не. абдымі з таго боку.*
*слухай»...*
*укладаю яе пальчыкі*
*ў стыгматы бярозы.*
*«тата адкуль гэтая рана?»*
*«ад сякераў».*
*ёсць словы для чытання*
*слухання занатоўвання...*
*а ёсць — ні для чаго.*
*так, усе сапраўдныя словы*
*ні для чаго...*
*дзядуля бярэ калаўрот*
*малаток бляшаны жалабкі*
*свідруе дзірачкі*
*убівае жалабкі*
*падвязвае пластыкавыя бутэлькі...*
*дома нас чакае працэджаны бярозавік.*
*але дачка не п'е...*

Ірына ДУБАШЫНСКАЯ

***

*Не хавайся за дрэвы.*
*Я цябе пазнаю.*
*Красавік,чуеш спевы?*
*Гэта птушкі пяюць.*

*Красавік, ну, хадзем жа,*
*Кінь палітру хаваць.*
*Дай натхненню без межы*
*Гэты дзень фарбаваць!*

Ілона СЦЯЦКО

***

*Тўшыць агні веснавая дарога!*
*Веліч і свята бадзёрага ранку.*
*Дрэвы, свабодныя ў замшавых тогах,*
*выйшлі насустрач світанку.*

*Вые паветра сцюдзёнай парой.*
*Просяцца рукі схавацца ў кішэні.*
*Холад бярэ і ўзнімае настрой*
*разам на ўсе запрашэнні.*

*Зімна, бы ў лютым. Зялёная здань —*
*гэта вясновая панна-кабета.*
*Гэй, красавік, ты з кішэні дастань*
*хоць бы кавалачак лета!*

# «Горды вой Крывіччыны»

## Да 100-годдзя Паўлюка ВАЗЁРНАГА

Алік АКУЛІЧ

***У застойна-савецкі 1972 год беларус замежжа выдаў кнігу «У сьвятле гістарычных фактаў» — адказ на брашуру гісторыка-вульгарызатара Лаўрэнція Абэцэдарскага «У святле неабвержных фактаў» (1969), — дзе па-навуковаму паказаў, што «бэсэсэраўскае выданне» мае чужы шавіністычны характар і свядома абкрадвае гісторыю беларускага народа, што «за прыкладам старое расейскае гістарыяграфіі афіцыйная савецкая гістарычная навука ніяк ня можа пагадзіцца з думкай пра апрычонае разьвіцьцё беларускага народу, пра ягонае самастойнае дзяржаўнае існаваньне ў мінулым». Аўтарам тых «Фактаў» быў Паўла Урбан (літаратурны псеўданім Паўлюк Вазёрны).***

Ён нарадзіўся 27 сакавіка 1924 года ў вёсцы Закаліўе на Лепельшчыне. «Бацькі — звычайныя сяляне, — успамінаў пра блізкага сябра Янка Запруднік. — У сям'і было сямёра дзяцей. Падчас хутарызацыі ў 1920-х гадох бацька атрымаў дзевяць гэктараў зямлі, але хутка пачалася масавая калектывізацыя, і сям'ю аб'явілі кулацкай. Бацьку арыштавалі, ён чакаў прысуду ў лепельскай турме больш за шэсць месяцаў... Паўлюк, пасля 7 клясаў дзесяцігодкі, вучыўся ў Віцебску ў фабрычна-заводзкай вучэльні. Падчас вайны вёска Закаліўе знаходзілася ў партызанскай зоне...»

Пра ваенны час сам Паўлюк Вазёрны ўспамінаў так: «На пачатку студзеня 1943 году немцы абкружылі ўначы і спалілі вёску Слабодку, што ляжала крыху воддаль ад Закаліўя. Спалілі яе разам з ейнымі жыхарамі, а там жыла і сястра майго бацькі, у якой было сямёра дзяцей — усе дзяўчынкі. Іхні бацька памёр яшчэ перад вайной. Прычынай для гэткай зверскай акцыі было тое, што партызаны забаранілі старасту вёскі накіроўваць людзей з падводамі для вывазу нарыхтаванага лесу або для ачысткі ад снегу шашы, якая вяла ў Лепель і праходзіла каля вёскі Студзёнкі, дзе размяшчаўся нямецкі гарнізон пасля таго, як партызаны выкурылі яго з мястэчка Пышна. Стараста вёскі Слабодка са сваім сынам, які калісьці вучыўся са мной у адной клясе, нейкі час хаваўся ў недалёкім лесе ад магчымага пакарання яго немцамі. Былі яны ў лесе і ў тую страшную ноч, а пасля падаліся да партызанаў...».

«У часе адной супрацьпартызанскай акцыі немцы арыштавалі Паўлюка й пасадзілі ў лягер для вывазу ў Нямеччыну... — зноў згадкі Янкі Запрудніка. — У чэрвені 1944 году, пакінуўшы бацькаўшчыну, ён апынуўся ў нямецкай дывізіі, якая была перакінута ў Францыю. Там хутка перайшоў на бок амэрыканцаў і апынуўся ў Заходняй Нямеччыне. Па заканчэньні вайны ўдалося пазьбегнуць прымусовага «вяртаньня на радзіму» й далучыцца да сваіх суродзічаў у лягеры ДыПі. Спачатку ў Рэгенсбургу, а пасля ў Міхэльсдорфе Паўлюк вучыўся ў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы <...> У студзені 1948 году, разам зь дзесяцьма сябрамі-скаўтамі з таго ж самага міхэльсдорфскага дыпіўскага лягеру, выбраўся на заработкі ў Вялікабрытанію. Пасьля двух зь лішнім гадоў вуглякопскае працы <...> наша група <...> прыехала ў Бэльгію на навуку ў Люванскім унівэрсытэце. Мы з Паўлюком выбралі гістарычны факультэт, які й закончылі ўвосень 1954 году».


Паўлюк ВАЗЁРНЫ. Пачатак 1950-х гг.

Падчас навучання ён быў сакратаром і скарбнікам лювэнскай студэнцкай арганізацыі (колькасць беларускіх студэнтаў даходзіла да 50 чалавек), сакратаром Саюза беларусаў Бельгіі, удзельнічаў у студэнцкім харавым і танцавальным ансамблі.

Паўлюк Вазёрны абараніў дысертацыю «Вялікае Княства Літоўскае за часамі вялікага князя Аляксандра (1492—1506)». Праз нейкі час выехаў у Рым, дзе збіраў матэрыялы для доктарскай дысертацыі ў багатай бібліятэцы Усходняга Інстытута. Меў таксама доступ у Ватыканскую бібліятэку і нават у Ватыканскі сакрэтны архіў. Пропускі туды дапамог атрымаць кардынал Тысеран, які сам і запрапанаваў дапамогу. У Рыме Паўлюк Вазёрны пасябраваў з айцом Аляксандрам Надсанам, які вучыўся тады ў Грыгарыянскім інстытуце. Пасябраваў і са спеваком Пётрам Конюхам ды айцом Пётрам Татарыновічам, які вёў беларускія перадачы на Ватыканскім радыё.

Захапленне нацыянальнай гісторыяй паклікала да мастацкага слова: Паўлюк Вазёрны раскрыўся і як каларытны празаік — сябар грамадска-літаратурнай суполкі ў Англіі «Дванаццатка» і таленавіты аўтар маладзёжнага часапіса «Наперад!» (у 1948—1953 гадах выдаваўся ў замежжы).

Паказальны факт: ужо другой літаратурнай публікацыяй маладога аўтара ў 1948 годзе стала аповесць (!) «Нявольнік няпраўды», у якой была апісана бальшавіцка-калгасная рэчаіснасць, што нішчыла ўсе маральныя і этычныя нормы чалавечага існавання, — тая рэчаіснасць, калі сын выступаў супраць маці, калі пад уздзеяннем таталітарнай ідэалогіі чалавекператвараўся ў зомбі-забойцу.

Найбольш запамінальны ў гэтай аповесці вобраз Мікіты Ляўчука — своеасаблівага двайніка купалаўскага Мікіты Зносака 30-х гадоў. Ляўчук па загадзе ДПУ віжуе за хутарам пушчанскага знахара Пракопа, «выкрывае» «нацдэмаўскую» групу беларускай моладзі, па прымусе ДПУ забівае бязвінную Ганю, унучку знахара, а ўрэшце і сам становіцца ахвярай «карнай рукі» бальшавікоў. У «Эпілогу» твора Мікіта ўцякае з «сібірскага» цягніка і знаходзіць смерць на магіле сваёй ахвяры...

Псіхалагічна ўдала выпісаны ў аповесці душэўная «ломка» («устрэс душы») «нявольніка няпраўды» Мікіты, ягоныя хістанні і думкі ў часе карнай экспедыцыі на пушчанскі хутар Пракопа: «Сонца падымалася, а разам з тым Мікіта са сваімі спадарожнікамі <...> углыбляўся ў лес. З кожным крокам да дзедавае сялібы ўсё часцейшыя такты адлічвала ягонае сэрца. Халодны пот выступаў на лоб, галава балела. У густым дубняку Мікіта пачуўся яшчэ горш — ужо блізка... Ён ішоў. Неўзабаве мільгануў прасьвет. Мікіта даў знак затрымацца. «Што, ужо... не, гэта йшчэ..?» — і гэтае падказаў ужо расплыўны брэх сабакі дзесьці ўпераддзе. Мікіта ўздрыгнуў. <...> Дрыжыкамі прахапіла ягонае нутро. Такты сэрца пачалі мацнець, ногі ў каленях дрыжэлі. Пасоўваўся ўперад як не сваімі нагамі. Думкі раптам супыніліся, як-бы хтось замарозіў іх ураз. Толькі вочы сыпалі нянавісць да ўсяго — так страшна мільгануў ягоны позірк узад, на сваіх спадарожнікаў. Ішоў далей, проста плёўся, без ніякае думкі» [цытуецца па публікацыі ў часапісе «Наперад!», 1948, № 14.].

Кульмінацыя аповесці — стрэл Мікіты ў Ганю, экстрэмальная сітуацыя выбару (якая будзе маштабна распрацавана ў творах аднагодкі Паўлюка Вазёрнага Васіля Быкава). Стрэл у «Нявольніку няпраўды» становіцца той жахлівай мяжой паміж дабром і злом, мяжой, за якой — поўнае маральнае рабства. Гэты эпізод таксама выпісаны напружана, вобразна (дзяўчына — як белая птушка), зграбна і ў сінтаксічным (каскад кароткіх простых сказаў), і нават у фармальна-абзацным афармленні:

«— Стреляй! — і агент, замест навесьці пісталет на Ганю, наводзіць на Мікіту.

У галаве гук разьбітага звона. Пад нагамі — прадоньне.

Стрэльба падымаецца... На мушцы, перад вачыма, замест Гані, мільгае між дрэваў птушка, белая птушка... віецца, скача, уцякае з мушкі. Цяжка цаляць... Раптам белае кольца гуляе ў хвалях. Палец націскае курок. Стрэлу Мікіта ня чуе. Бяжыць уперад — на птушку...».

Першая аповесць Паўлюка Вазёрнага не пазбегла, на жаль, некаторых хібаў вялікай прозы пачаткоўцаў, — і стылёвых, і кампазіцыйных. Аповед атрымаўся часткова неабгрунтавана сентыментальным. Не ўпрыгожылі яго і доўгія пафасныя дыялогі станоўчых герояў (свядомых хлопцаў-беларусаў Петруся і Міхася). Сярэдзіна аповесці атрымалася беспадзейнай, расцягнутай.

Калі аповесць Паўлюка Вазёрнага «Нявольнік няпраўды» засведчыла найперш імпэтную мастацкую вучобу маладога пачаткоўца, ягонае апавяданне «Няміга», апублікаванае ў № 18 часапіса «Наперад!» за 1949 год, можа лічыцца аўтарскай удачай. У апавяданні з дакументальнай грунтоўнасцю (у зносцы да апавядання пададзена нават дакладная дата пачатку падзей: 3 сакавіка 1067 года) апісаны захоп войскамі Яраслававічаў, князёў Кіеўскай Русі, старажытнага Менску і выратоўны паход супраць гвалтаўнікоў дружыны полацкага князя Усяслава і яго малодшага сына Глеба.

Аўтар — гэта відавочна — быў ахоплены дзяржаватворчай ідэяй і свядома засяродзіўся ў сваім апавяданні на старадаўніх вытоках беларушчыны, узор для мадэлі нацыянальнага быцця шукаючы ў багацці, мудрасці, мужнасці народнага духу (якое выяўляе заканадаўчае веча), у моцнай самастойнай дзяржаве, на чале якой — адданы сваёй Бацькаўшчыне «Князь Вялікі, магутны ўладар Зямлі Крывіцкае».

Паўлюк Вазёрны бачыць у старажытным Полацку сэрца Крывіччыны (матыў Крывіччыны гучыць у апавяданні ледзь не рэфрэнам: «горды вой Крывіччыны», «Полацак і іншыя крывіцкія цьвярдыні», «грады зямлі крывіцкае», «воі-крывічане», «Гаспадар Полацку і ўсяе зямлі крывіцкае» і пад.).

Ідэйна-тэматычным і стылёвым планамі апавяданне Паўлюка Вазёрнага «Няміга» арганічна паядноўваецца з беларускай гістарычнай прозай 80—90-х гадоў, высвечвае нявыкарыстаныя на той час абсягі нацыянальнага мастацкага слова, паказвае шляхі яго магчымага развіцця ў ранейшых дзесяцігоддзях, шляхі, перарваныя ў заідэалагізаваным і падцэнзурным перыядзе панавання сацыялістычнага рэалізму.

Прадметам сваёй мастацкай зацікаўленасці Паўлюк Вазёрны абірае найбольш паказальны і эфектны эпізод беларускай гісторыі. Князь Усяслаў, дачуўшыся аб захопе князямі Яраслававічамі Менску, ідзе ў паход; полацкія і кіеўскія дружыны сутыкаюцца ў жорсткай сечы. Калі ў крывічан былі ўведзены ў бой апошнія падмацаванні і, здавалася, іх дружына вось-вось пачне адступаць, на беразе крывавай Нямігі з'явіўся са сваім аддзелам сын князя Усяслава Глеб (які дагэтуль змог вызваліць палонных менчукоў). Бой разгараецца з новаю сілай, і толькі ноч спыняе яго. Пераможныя шалі, як пераконвае аўтар апавядання, схіляюцца на бок полацкіх ваяроў (князь Усяслаў напрыканцы пачынае ўсміхацца; як мудры вайскаводца, ён пад аховай цемры змяняе месца стаянкі сваёй дружыны, каб раніцай распачаць новую сечу — за незалежнасць Крывіччыны).

На гэтым апавяданне «Няміга» заканчваецца. Абазнанаму ў гісторыі чытачу вядома, што напярэдзе палачанаў і ўсю «Крывіччыну» чакалі трагічныя падзеі, пра якія новых твораў Паўлюка Вазёрнага не дайшло, — аднак тыя падзеі на дабрадатнай літаратурнай ніве леглі ў аснову гістарычнага рамана канца 80-х гадоў Леаніда Дайнекі «След ваўкалака» (дзе апісаны далейшы лёс князя Усяслава, празванага Чарадзеем, пасля злога падману князем Ізяславам: палон у кіеўскім астрозе-порубе і ўцёкі з яго).

Апавяданне Паўлюка Вазёрнага зроблена як гераічная панарама, у апісальнай манеры, з алюзійнасцю да «Слова аб палку Ігаравым» — першага мастацкага твора пра старадаўнюю бітву на менскай Нямізе.

Апавяданне «Няміга» ніколі не передрукоўвалася ў Беларусі (найбольш поўна празаічныя творы Паўлюка Вазёрнага апублікаваны ў складзенай Янкам Запруднікам кнізе «Дванаццатка» (Нью-Ёрк, БІНіМ, 2002)), таму дазволім сабе працяглую цытату з яго — пра тыя ж крывавыя падзеі на Нямізе: «Гарэла неба на ўсходзе, купаючы ў золаце вясновую раніцу. Якраз на разьдзеле верхавінаў дрэваў, што ахутвалі воддаль берага Нямігі, яно зьмяняла свой колер і прыймала з кожнай хвілінай больш сьветла-празрыстую афарбоўку. Праменьні, падобныя да тонкіх дыямантавых голак, выпаўзалі з гэтага адасобленага колерам паўкола і, перасякаючы гушчыню пазалоты, уразаліся вострымі штрыхамі ў высь цёмнага блакіту. <...> У гэтым часе зайграў баявы ражок. Жудасны шэлест зброі парушыў мёртвую цішыню. Лес ззаду паўтарыў яго глухім рэхам <...>.

Няміга яшчэ больш счарніла ваду між кучамі целаў. Па́ра над полем, дзе соўвалася людская калатня, ужо далей пад Менск, больш заўважна ўзьвівалася ўгару. <...> Воі-Крывічане блудзілі сярод вялізнага могільніку, падбіраючы раненых таварышаў. Бітва ўсё далей адыходзіла ад берагоў Нямігі».

Выявіўшы сталенне творчага мыслення і мастацкага почырку, Паўлюк Вазёрны, на жаль, пасля «Нямігі» прыпыніў публікаванне сваіх празаічных твораў, якія засталіся сведчаннем багатага ідэйна-мастацкага патэнцыялу нацыянальнай гістарычнай прозы яшчэ напрыканцы 40-х гадоў XX стагоддзя...

У 1955—1974 гадах Паўлюк Вазёрны працаваў у Інстытуце вывучэння СССР (Мюнхен), быў скарбнікам і адміністратарам выдавецтва «Бацькаўшчына». У 1961-м ажаніўся з зямлячкаю Ларысай Асадчай. З 1974 года і да выхаду на пенсію (1989-ы) быў супрацоўнікам беларускай «Свабоды». У 2001 годзе ў Мінску выйшла яго праца «Старажытныя ліцьвіны: Мова. Паходжаньне. Этнічная прыналежнасьць» (2-е выданне — у 2003-м), прысвечаная даследаванню этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвінаў і гістарычнага тэрміну «Літва».

Аднак час браў сваё... На 87 годзе жыцця — 2 лютага 2011-га — у нямецкім Мюнхене Павел Урбан-Паўлюк Вазёрны, — гісторык, журналіст, празаік, грамадскі дзеяч, — закончыў свой зямны шлях. Пахаваны на Friedhof München Riem. У Мюнхене засталіся яго дачка і жонка...

«Сапраўдны беларус: сціплы, вельмі разумны, глыбокі, мала казаў, але шмат напісаў вельмі карыснага для нашай краіны. Усе мы вельмі ўражаны яго смерцю. Хацелася б, каб такія людзі ніколі не паміралі...» — адной з першых адгукнулася на смерць творцы і патрыёта Івонка Сурвіла.

Хочацца, прынамсі, верыць, што напісанае такімі людзьмі — усё ж! — застаецца.

...«Пакуль не пазбавімся абэцэдаршчыны, застанемся сляпымі і глухімі», — у адзін голас за Паўлюком Вазёрным прамовіў Уладзімір Караткевіч...

# Пацыент



Міхась ЗІЗЮК

Сяргей Пятровіч падыходзіў да ганку псіхіятрычнай бальніцы ў добрым настроі. Майская зеляніна, цёплае паветра, сонца, прыветлівыя людзі, — чаму ж не радавацца жыццю? Хай сабе ты ідзеш на працу, дзе чакаюць пацыенты з хворай псіхікай; з імі трэба будзе займацца, размаўляць, даваць рэкамендацыі і прызначаць лячэнне, разбірацць карткі ды шмат чаго яшчэ.

Так, увесь час прыходзіцца працаваць з нездаровымі людзьмі, выслухоўваць столькі ўсяго, бачыць іншым разам такія выбрыкі, што і самому можна звар'яцець. Але ж ён тут не першы год, а больш дзясятка, прывык, да таго ж праца ёсць праца, трэба і гэткую справу некаму рабіць.

Ахоўнік на варотах ветліва павітаўся з ім. Сяргей Пятровіч адказаў і ступіў на тэрыторыю бальніцы. Абапал пешаходнай сцежкі ярка зелянелі падстрыжаныя кусты, палымнелі на клумбах цюльпаны, шчабяталі птушкі — усё гэта падбадзёрвала настрою.

Ён зайшоў у будынак, адчыніў кабінет і зняў лёгкі плашч. Амаль адразу да яго зазірнула медсястра Ірына — пышнацелая саракагадовая разведзёнка, якая працуе тут крыху болей за дваццаць гадоў і некалі, па першым часе, спрабавала дамагчыся ягонай увагі, а пасля, зразумеўшы бесперспектыўнасць такога занятку, пераключылася на новага доктара. Дзякуючы сваім формам яна спраўляецца з буйнымі пацыентамі не горш за санітараў.

— Добры дзень, Сяргей Пятровіч.

— Добры дзень, Ірына Іванаўна. Што ў нас сёння?

— Ціха, калі не лічыць, што наркаман з пятай спрабаваў разбіць шкло і парэзаць сабе вены. Але хлопцы своечасова яго ўціхамірылі. Вы на планёрку цяпер?

— Так. Што новага?

— Не, нічога. Ага, ледзь не забылася — новенькага прывезлі сёння, нейкага маладога вясковага настаўніка. Сядзіць у ізалятары, а сам такі спакойны, паслухмяны, размаўляе ветліва, на вы. На выгляд і не скажаш, што псіх. І даволі сімпатычны.

Ірына нечага заўсміхалася.

— Што ж, значыць, будзем разбірацца.

Будзённая планёрка, якую галоўурач праводзіў па панядзелках, прайшла ў звыклым рытме і нічога новага не прынесла. Перагрэслі старыя праблемы пра рамонт у харчблоку, пагаварылі пра парадак у палатах, крыху праехаліся па яшчэ маладым, але сівым загадчыку гаспадаркі і акрэслілі накірунак на новы тыдзень. Усё як заўсёды.

Падняўшыся на другі паверх па бетоннай лесвіцы, ён зайшоў у ізалятар. Санітар падаў кнігу з запісамі і паперы на новенькага.

— Што ў вас?

— Усё нармальна, парадак, — бадзёра адказаў санітар. — Прывесці яго?

— Давай да мяне.

Пакуль той хадзіў за пацыентам, Сяргей Пятровіч пераглядзеў паперы: пашпарт, накіраванне ад раённага псіхіятра, характарыстыку са школы, даведку аб стане здароўя — і пра сябе адзначыў: цікавы выпадак.

Ён увайшоў у кабінет, ветліва павітаўся і прысеў на крэсла каля стала.

— Можаш ісці, — кіўнуў санітару Сяргей Пятровіч. Крыху пагартаўшы яшчэ паперы, ён паглядзеў на настаўніка. Русявыя прамыя валасы, правільныя рысы твару, крыху вастраватыя нос і жывыя васількавыя вочы, якія ўважліва і пранікнёна глядзяць на доктара. Не, на шызафрэніка ён зусім не падобны.

— Скажыце, Іван Мікалаевіч, вось тут, у характарыстыцы, ёсць радок, што вы вершы пішаце. Сапраўды так?

— Так, — ціха пацвердзіў малады настаўнік.

— Пра што, калі не сакрэт?

— Тэмаў шмат, але ў большасці пра людзей.

— А калі дакладней…

— А вы пачытайце, і адразу зразумееце. Я думаю, што калі мяне схапілі, то і сшытак мой таксама забралі, перачыталі і сюды прыцягнулі. Зусім, як у трыццаць сёмым, — паэт і настаўнік сумна ўсміхнуўся.

— Навошта вы так, Іван Мікалаевіч? Ніхто вас не хапаў і не цягнуў, вас запрасілі. Вы, як ніхто, павінны разумець, што чалавечы мозг — найскладанейшы орган, які дасюль не вывучаны, і ўсялякае можа адбыцца з псіхікай. Таму мы хочам усё высветліць і вам дапамагчы.

— Ведаеце, вялікі дзякуй, але мне не патрэбна дапамога.

— Хм, я мяркую, што гэта не так. Вы ж не будзеце адмаўляць таго факта, калі казалі дзецям, што можаце лятаць. І што кожны чалавек можа, калі захоча, так рабіць. Ці гэта ў вас проста была паэтычная метафара?

— Безумоўна, я не буду адмаўляцца ад сваіх слоў: кожны чалавек, пры вялікім жаданні, можа навучыцца лётаць.

— Цікава, цікава. І даўно гэта ў вас?

— Гледзячы што вы маеце на ўвазе.

— Скажам так: калі вы сталі лётаць.

Паэт і настаўнік крыху задумаўся. Яго твар, як бы яшчэ больш завастрыўся, а позірк пацяплеў, паспакайнеў.

— Ведаеце, усё сваё свядомае жыццё я задумваўся: чаму птушкі лётаюць, а чалавек не? Чаму мы не маем волі, свабоды над сваім целам? Часта выходзіў на круты бераг ракі і ўяўляў, як распасціраю рукі, скачу ўніз і лячу. Лячу над ракою, над лугам, узмываю ўверх, вяртаюся і кружу над вёскаю. Але ж боязь, страх за сваё жыццё пераадольвалі пачуццё, жаданне палёту. І гэтая думка не давала мне спакою. Паступіўшы ў інстытут, я шмат чытаў і даведаўся, што магчымасці нашага арганізма практычна неабмежаваныя — трэба адно толькі займацца сабою, развіваць свае здольнасці і тое, што закладзена ў нас звыш. Любое наша жаданне можна ўвасобіць у жыццё, трэба толькі захацець гэтага моцна-моцна. Так я стаў займацца сабою. Канечне, спачатку ў мяне нічога не атрымлівалася. Спатрэбілася некалькі гадоў штодзённых заняткаў, трэніровак, пакуль не дамогся свайго. І гэта, аказвалася, зусім нескладана. Патрэбна толькі ўсяго адкінуць свій страх, напружыць волю і ўяўленне — і ўсё атрымаецца. Калі працей сказаць — паверыць у сябе, у свае сілы, узняцца над сабою. — Іван Мікалаевіч ўсміхнуўся. — Вы можаце лічыць мяне хворым, запіхнуць у палату, калоць рознымі лекамі і піхаць таблеткі, але гэта не дапаможа: вы не зможаце перамагчы тое, што перамагчы немагчыма. І самае галоўнае, што ў любога чалавека падсвядома дрэмле пачуццё свабоды, канчаткова яго забіць нельга. Вядома, пад уздзеяннем розных абставін можна пераўтварыць яго ў раба, у паслухмяны вінцік, але дайце толькі магчымасць яму паспрабаваць смак свабоды, удыхнуць гаючага паху волі, і чалавек ужо больш ніколі не захоча жыць так, як ён жыў раней. Вось так і было са мною: узляцеўшы аднойчы, я больш не захацеў быць чарвяком, казуркаю. Вы не ўяўляеце, якая гэта асалода — ляцець над зямлёю, лунаць у паветры: над табою зорнае неба, а навокал толькі вецер і воля! Я ніколі не лятаў днём, бо не хацеў непатрэбных размоў і спекуляцый. Але хаваць у сабе шчасце і не падзяліцца з людзьмі — для мяне было б злачынствам. Таму на ўроку я расказваў дзецям пра магчымасці нашага арганізма, пра тое, на што мы здольныя, і, галоўнае, каб яны паверылі ў сябе. Чалавек без веры — не чалавек.



Фота Bred_Mail

Сяргей Пятровіч уважліва паглядзеў на настаўніка, на нейкае імгненне задумаўся, а пасля падняўся, падышоў да акна, рашуча, адным рэзкім рухам, расчыніў яго і павярнуўся да Івана Мікалаевіча.

— Давайце.

Настаўнік здзіўлена паглядзеў на яго.

— Давайце, ляціце. Калі вы можаце лятаць — ляціце, прадэманструйце свае здольнасці. І адразу выпішу вас, вы паедзеце дахаты. Давайце.

Сяргей Пятровіч скрыжаваў рукі на грудзях і ўтаропіўся ў настаўніка. Ён ведаў, што нічым не рызыкуе: кабінет на першым паверсе, а калі пацыент і выскачыць на вуліцу, то нікуды не паспее збегчы.

Іван Мікалаевіч падышоў да акна, нейкі час моўчкі ўзіраўся на кусты — і павярнуўся да доктара.

— Не, я так не магу.

— Чаму?

— Я ніколі не спрабаваў узнімацца ў паветра пад нечым пільным позіркам: гэта тое ж самае, што быць дрэсіраванай малпай і скакаць з тумбы на тумбу па загадзе гаспадара. Вы ж не можаце загадаць птушцы — ляці! Яна вольная ў сваіх жаданнях. Так і я. Да таго ж мне патрэбен пэўны час, каб сканцэнтравацца, настроіцца на хвалі Сусвету, з якіх чарпаю энергію, а пад кантролем я не магу гэтага зрабіць. Прабачце.

Сяргей Пятровіч зачыніў акно і сеў за стол. Ён як бы згубіў цікавасць да свайго пацыента. Усё зразумела, будзічна, як і заўсёды: проста чарговы хворы чалавек, якому патрабуецца дапамога псіхіятра.

Ён выклікаў санітара.

— Адвядзіце яго ў палату.

Іван Мікалаевіч падышоў да дзвярэй і азірнуўся на Сяргея Пятровіча:

— Усё ж дарэмна вы мне не верыце. Але ж гэта ваша справа, бо я ўсё роўна буду вольным. Бывайце.

Псіхіятр сеў за стол і хацеў зрабіць запіс у картцы, але нечага задумаўся, адкінуўшыся на спінку крэсла. Без сумнення, цікавы чалавек, гэты настаўнік і паэт, але творчыя людзі — яны ўсе ў нейкім сэнсе нездаровыя. І могуць уявіць сабе такое, што не можа звычайны чалавек, могуць прыдумаць іншую рэальнасць і жыць у ёй. Хутчэй за ўсё, так сталася і з гэтым маладым чалавекам, які захацеў адгарадзіцца ад цяжкасцяў і праблем у сваёй рэальнасці. Прыйдзецца прызначаць яму псіхатропныя прэпараты, паназіраць нейкі час, а потым рабіць выснову па далейшым курсе тэрапіі.

Назаўтра ў бальніцы здарыўся перапалох: раніцай выявілася, што настаўнік знік…

Дзяжурны санітар запэўніваў, што нікуды не выходзіў і нікога не выпускаў з другога паверху, але куды знік пацыент — ён не ведае. Усе вокны там з металічнымі краткамі, і тое, што настаўнік мог збегчы такім шляхам, выключалася.

Дзеля праўды, трэба адзначыць, што санітар вырашыў змаўчаць аб адной акалічнасці: ноччу, як звычайна, ён крыху прыснуў. А чаго было хвалявацца? Усе гэтыя псіхі ў палатах, калідор замкнёны, а ключ ад дзвярэй толькі ў яго. Ён ужо не першы год тут, і ніколі ўцёкаў не здаралася, было ціха, калі не лічыць двух ці трох выпадкаў самагубства. Калі прачнуўся і выйшаў пакурыць на лесвічную пляцоўку, то заўважыў, што акно там прыадчынена. Санітар бачыў, што ўдзень там працірала пыл прыбіральшчыца, і, напэўна, яна забыла зачыніць фрамугу.

Як жа мог псіх выбрацца на лесвіцу? Таму са спакойнаю душою ён прыкрыў акно і пайшоў драмаць далей.

У тую ж ноч Саўка, вартаўнік калгаснай фермы, што месцілася ў некалькіх кіламетрах на поўнач ад псіхіятрычнай бальніцы, рабіў абход па тэрыторыі. Вартаўнік паспеў выцурбаніць пляшку таннага «чарніла» і быў у гуморы. Ён добра ведаў, што да раніцы ўжо ніхто правяраць не будзе — з гадзіну назад быў участковы, і больш тут ніхто не з'явіцца. Таму, зрабіўшы па тэрыторыі круг для самазаспакаення, Саўка збіраўся прытуліцца ў зацішку і падрамаць. Адвярнуўшыся ад ветру, каб чыркнуць запалкаю ды прыпаліць цыгарэту, ён ледзь не ўпусціў пачак «Прымы». Вартаўнік заўважыў чалавека, які ляцеў у паветры, распасцёршы рукі…

Месяц праглядваў з-за хмар, і чалавека Саўка выразна разгледзеў: той ціха плыў па небе.

Вартаўнік патрос галавою, працёр вочы і зноў паглядзеў у начное неба. Там нікога не было.

Саўка ціха вылаяўся: усё, дапіўся, ужо людзі пачалі лётаць. Не, мабыць, мае рацыю жонка, калі дапякае яго за ледзь не штодзённае прыкладванне да бутэлькі. Трэба завязваць.

Азірнуўшыся яшчэ раз, Саўка пацягнуўся далей.

Калі б яшчэ хто-небудзь не спаў у вёсцы той ноччу, то заўважыў бы, як нейкі цень мільгнуў над хатамі, над школаю — і растаў у цемры.

Што гэта было — ці буйная начная птушка, ці кажан, ці яшчэ хто — так і засталося невядомым.

# «Уралачка»

## Іранічны дэтэктыў



Віктар ВАРАНЕЦ

Уначы Пятру Сямёнавічу Іванову сніліся грошы. Вялізныя рознакаляровыя паперкі павольна апускаліся на зямлю, нібы восеньскае лісце, складваючыся ў дзіўныя фігуры. Але як толькі хлопец працягнуў да іх рукі, гэтыя даляры, еўра, фунты жвавенька ўскочылі на крывенькія ножкі і са смехам разбегліся ў розныя бакі.

…Пятро расплюшчыў вочы і з хвіліну ашалела глядзеў у столь. Такіх сноў ён яшчэ не бачыў. І сто пудоў — тут нешта зашыфравана. Грошы — гэта добра, гэта да багацця. Але яны ж разбегліся па кутах. Дзеля чаго? Праўда, паразважаць не даў прарэзлівы званок будзільніка. Час бегчы на працу.

Брыгада будаўнікоў, у якой працаваў Пятро, была ўжо ў поўным зборы. Мужыкі лянiва перакідваліся словамі пра футбол і надвор’е, чакаючы брыгадзіра з новым заданнем.

Неўзабаве з’явіўся і сам брыгадзір.

— Ну што, хлопцы, сёння ў нас гістарычная справа. Будзе што ўнукам расказаць.

— Будзем бурыць банк, тэлеграф і лазню? — пажартаваў нехта.

— Амаль што так, — пагадзіўся брыгадзір. — Толькі гэтым разам будзем бурыць апошнюю піўную на П’яным вугле.

Усе толькі ахнулі.

П’яны вугал ведаў у Гродне кожны жыхар сярэдняга і сталага ўзросту. Там, у Занёманскай частцы горада, на скрыжаванні дзвюх вуліц калісьці стаялі чатыры піўныя павільёны: «Вецярок», «Турыст», «Уралачка» і «Хваля». А над імі высіўся з дакорлівым выглядам Францысканскі касцёл. І кожнага дня рабочыя гарбарнага завода, хлебакамбіната і тытунёвай фабрыкі ішлі пасля змены да павільёнаў зняць працоўны стрэс, адвесці душу за куфлем піва з гарэлкавым дадаткам. Ды і гараджан іншых прафесій і поглядаў на жыццё хапала ў гэтых гасцінных піўнушках.

Але час рабіў сваю справу: горад рос, вуліцы пашыраліся, і павільёны знікалі адзін за адным. Даўжэй за іншыя трымалася «Уралачка», але вось дайшла чарга і да яе.

— Ды ў каго рука падымецца на такое? — змрочна запытаў Сідараў, дужы чарнявы мужык з тварам выпівохі і задзіры.

— А там ужо пуста, — супакоіў брыгадзір. — Усё вывезлі, засталося разбіць толькі старыя сцены. Можа, якое кафэ паставяць.

— Ага, — дружна заківалі галовамі мужыкі, — і піва па цане каньяку…

— Не хочаш — не пі, — адказаў брыгадзір і гучна скамандаваў: — Хопіць трындзець! Усе ў машыну. Едзем!

Знішчэнне павільёна заняло ў хлопцаў не больш за дзве гадзіны. Горба дошак, цэглы і лістоў бляхі ўзвышалася на месцы славутай пабудовы. А паколькі да канца працоўнага дня заставалася яшчэ досыць часу, брыгадзір павёз будаўнікоў на іншы аб’ект, загадаўшы Пятру да канца дня адсартыраваць добрую цэглу ад бітай.

Крыху пасядзеўшы і пакурыўшы, хлопец узяўся за справу. Цэлую цэглу складаў роўнымі радочкамі, а бітую адкідаў убок. Хвілін праз дваццаць ён дабраўся да драўлянай падлогі. Адна з дошак была зламана, і пад ёй бачылася нешта металічнае. Пятро хуценька паадзіраў яшчэ колькі масніц і ўбачыў нейкі люк з жалезным вечкам пасярэдзіне. Ад такой знаходкі хлопца ажно кінула ў пот. Трэба нешта тэрмінова рабіць. Можа, пазваць міліцыю ці пачакаць, пакуль вернецца брыгада? Ага, а калі там клад? Яго, Петрукоў, клад… Вось ён, сон у руку… Не, Пецька не дурань, спачатку сам усё агледзіць, а потым і вырашыць, што рабіць. Патрэбен толькі ліхтарык.



Фота ukr-boch.com

Закідаўшы ход смеццем, Іваноў хуценька злётаў да суседняга гандлёвага шапіка, набыў там танны кітайскі ліхтарык і, вярнуўшыся, рашуча пацягнуў за вечка. Люк з трэскам пачаў падымацца. Цвілая цагляная лесвіца вяла ў загадкавую цемру. Пятро цяжка ўздыхнуў і пакрочыў уніз…

Каля сямнаццаці гадзін да разбуранага павільёна пад’ехала машына з брыгадай будаўнікоў. Брыгадзір вылез з кабіны, скептычна агледзеў вынікі зробленай працы і зычна крыкнуў:

— Іваноў!



Фота liebherr.com

Не дачакаўшыся адказу, рушыў да развалін. За ім пацягнуліся астатнія. Убачыўшы адкрыты люк, брагадзір пару разоў крыкнуў туды, але адказам была цішыня.

— Можа, палезем? — нерашуча прапанаваў нехта.

— Не, — адрэзаў брыгадзір, — трэба выклікаць міліцыю.

Праз якую гадзіну прыехала міліцэйская машына. Адтуль выйшлі два капітаны і сяржант з сабакам. Яны наблізіліся да люка, пасвяцілі ліхтарыкамі, і адзін з капітанаў павярнуўся да сяржанта:

— Ну, давай, Сцяпанаў, дзейнічай.

Сцяпанаў адчапіў павадок, злёгку хлопнуў сабаку па спіне і скамандаваў:

— Рэкс, уперад!

Рэкс скочыў у цемру. І тут жа пачулася жалоснае скуголенне сабакі. Сяржант ужо было кінуўся следам, але яго схапілі за руку.

— Чакай, Валера. Давай пакрысе…

Міліцыянеры зноў уключылі ліхтары і пачалі павольна спускацца па прыступках. Неўзабаве прамень высвеціў каменную падлогу, на якой ляжаў нейкі прадмет, падобны да бараны, з павернутымі даверху вострымі зубцамі. А на іх курчыўся ў лужыне крыві Рэкс. Далей былі бачны драўляныя, абабітыя металічнымі палосамі дзверы.

— Ну што, Барыс, трэба ісці далей? — вымавіў адзін з афіцэраў.

— Так, Саня, бо ёсць такая прафесія: ва ўсе дзіркі лазіць, — адказаў другі і павярнуўся да люка. — Сцяпанаў, вынось Рэкса і вязі ў ветлячэбніцу. Можа, што і зробяць. А мы далей.

Тоўстыя дзверы з агідным рыпеннем расчыніліся. За імі бачыўся невысокі, метры паўтара, умацаваны камянямі ход. Барыс зняў з планшэткі вузкі раменьчык, адзін канец яго ўзяў у левую руку, а другі даў напарніку.

— Гэта калі хто раптам праваліцца. Невядома, што яны тут яшчэ навыдумлялі, тампліеры няшчасныя… — патлумачыў Аляксандру і асцярожна рушыў па калідоры. З кожным крокам праход рабіўся ўсё больш нізкім. І вось ужо трэба было перасоўвацца літаральна на каленках. Але мужныя міліцыянты ўпарта цягнуліся наперад. Як раптам Аляксандра крыху хіснула ўбок, і ён абапёрся далоняй аб адну з цэглаў на сцяне. І тут жа з жахам адчуў, што цэгла правалілася і рука натыкнулася на нейкі акруглы прадмет. Хутчэй інстынктыўна, чым свядома, ён адзёрнуў руку назад і ўбачыў, што трымае чалавечы чэрап.

— А-а-а! — міжволі зароў хлопец, выпусціўшы з рукі непрыемную знаходку.

— Ну і чаго верашчыш, як парсюк недарэзаны? — строга запытаў Барыс. — Што, чарапушак ніколі не бачыў?

— Ага, табе б такое… — пачаў апраўдвацца Аляксандр, стараючыся ўжо крочыць дакладна па слядах калегі. Нарэшце столь пачала падымацца ўгору, і ўжо праз крокаў дваццаць пінкертоны выбраліся ў вялікую мураваную залу, усю застаўленую вялізнымі, літраў на 500, драўлянымі бочкамі. Паміж бочак высіліся стэлажы, даверху застаўленыя цёмнымі бутэлькамі.

— Дык гэта ж кляштарная вінярня! — у захапленні прамармытаў Аляксандр.

— Ага, — пацвердзіў Барыс. — А вось і ахоўнікі ляжаць…

І ён кіўнуў на тры шкілеты, што акуратна ляжалі на пясчанай падлозе. І толькі чацвёрты быў у целе, у рабочай спяцоўцы — і нешта мармытаў сабе пад нос, радасна ўсміхаючыся.

— Здаецца, гэта і ёсць наша страта, — прыгледзеўшыся, сказаў Аляксандр. — Але што здарылася з іншымі?

Барыс ужо корпаўся каля аднаго са шкілетаў. Ён асцярожна, узяўшы насоўкай, выцягнуў з-пад нагі (божухны, якая ж гэта нага?) нейкую тоўстую кнігу ў добра пацёртым скураным пераплёце. Гучна пачаў чытаць: «Аб уладзе і адзінстве царквы боскай. Пётра Скарга».

— Нічога сабе, — ён ажно прысвіснуў. — Сашка, ты разумееш, гэта ж канец шаснаццатага стагоддзя! Кніга славутага ўніята. Не дзіва, што гэты капуцын чытаў яе ў такіх скляпеннях, каб ніхто не пабачыў. Але, мусіць, перабраў з напоямі…

— А ты адкуль гэтага Скаргу ведаеш? Яго ў міліцэйскай школе не выкладаюць… Ці я нешта прапусціў?

— Не, — супакоіў Барыс сябра, — не прапусціў. Я ж да міліцыянства філфак скончыў. Ды я ж табе казаў калісьці. Памятаеш?

— Можа быць… — не зусім упэўнена адказаў Саня. — Ну а што з другім?

Барыс перайшоў да другога шкілета. Каля вялікагалёнкавай косткі ляжала некалькі маленькіх манетак. Барыс падняў адну з іх і пачаў пільна разглядаць. Затым падняў галаву і голасам лектара ўрачыста абвясціў:

— Прыкладна сярэдзіна сямнаццатага стагоддзя! Вось адзін экю з выявай французскага караля Людовіка XIII. Менавіта такія манеты хадзілі ў той час у Еўропе.

— Гэта таксама цябе на філфаку навучылі? — ужо зусім збянтэжана запытаў напарнік.

— Не, — з усмешкай адказаў Барыс, — проста бацька быў нумізматам і шмат чаго мне расказваў пра старыя грошы.

— А як з трэцім у нас справы?

— Трэцяга ты і сам адолееш, дастаткова паглядзець на гэты экспанат, — і Барыс падняў з пяску пустую бутэльку, на якой выразна была выціснута лічба 1905.

Аляксандр стаяў у захапленні.

— Ну і як яны ўсе сюды з розных часоў трапілі?

— Я так мяркую, што гэтую вінярню францысканцы пабудавалі і напоўнілі, як толькі збудавалі свой касцёл. Зразумела, сюды і ход быў з касцёла. Ну, а як патрабаваў той час, былі зроблены і некалькі патаемных выхадаў з касцёла. Адзін з іх ішоў якраз праз вінярню. Капуцын, пэўна, адказваў за недатыкальнасць запасаў (куды, дарэчы, простым манахам уваход быў забаронены), дзе пад чарку і чытаў «непатрэбныя» кнігі. З нейкае прычыны ўваход з боку касцёла абваліўся. Бачыш тую горбу камянёў? Пра другі ход ведаў, магчыма, мала хто. Ну вось той жа капуцын. Але здароўе аднойчы не вытрымала. А далей пайшло па ланцужку. Хтосьці знаходзіў выпадкова дарогу да гэтага багацця і заставаўся, ачмурэлы векавымі напоямі, тут на заўсёды. Ну, а апошнім стаў наш сённяшні госць, які мірна сапе каля бочкі.

— Крута, — працягнуў Саня. Потым на хвіліну задумаўся і нясмела прапанаваў: — Слухай, а давай пакаштуем гэтага віна. Што ж за смак у яго такі дзівосны, што людзі аддавалі жыццё?

— Ага, і прыйдуць па нас яшчэ праз пару вякоў. Не, Саня, давай лепш выбірацца адсюль, а віно… Ды халера яго бяры, гэтае віно… — з нейкай злосцю закончыў Барыс, ускінуў беспачуццёвае цела Пятра на плячо і рушыў да выхаду…

…Падзямелле было вырашана закансерваваць да лепшых часоў, калі з’явяцца грошы на яго даследаванне; уваход замуравалі, а зверху зрабілі асфальтавую дарожку, па якой і сёння гуляюць гарадзенцы.

# Красавік у разгары



Васіль ЖУКОВІЧ

## На зямлі садоўніка

*Цыкл, прысвечаны*
*Карлу Пфанцыцілю.*

***

*Я хадзіў па чароўным садзе,*
*А быў красавік у разгары,*
*І якраз прачыналіся кветкі,*
*О, яны усміхаліся сонцу,*
*Кожная — запаветным цветам!*
*Іх было шмат, мілых ды сціплых,*
*Што трымаліся маці зямлі.*

*Я ступаў асцярожліва,*
*Каб, крый Бог, не пакрыўдзіць якую.*
*Там цвілі экзатычныя дрэвы й кусты —*
*Ад раскошных японскіх вішняў*
*Да ружовых і белых магнолій.*

*Я ў тым садзе быў госцем,*
*Вольна водарам дыхаў*
*Пасля доўгай стамляльнай дарогі.*
*Калі ўбачыў садоўніка з сынам*
*За напружанай цяжкаю працай,*
*Раптам сорамна стала:*
*Я адчуў сябе трутнем знянацку*
*Сярод пчолаў, што мёд здабываюць.*

***

*Райскі край*
*працвітае пад сонцам на свеце:*
*Там нідзе не валяецца смецце;*
*Не адвесці вачэй ад вясновага поля —*
*Поле роўнае ўсё, нібы столік;*

*Там у норме прыгожыя ўчынкі*
*і рэчы*
*Незнаёмага*
*Людзі вітаюць пры стрэчы, —*
*Гэта ёсць зямля Х э с с э н.*
*Там у крамах*
*не пахне ніякай нястачай —*
*Мора вопраткі,*
*гожай і таннай,*
*дзіцячай;*

*Там у парках —*
*разумныя дзецям забавы.*
*У дарослых — імпэт,*
*месца першае —*
*справам.*

*Процьма там і праблем,*
*Грэшным людзям знаёмых.*
*Падзяліць найскладанейшую маёмасць.*
*Гэта ёсць зямля Х э с с э н.*

***

*Колькі дзён мне паказваў садоўнік*
*Сёе-тое з багацця слайдаў —*
*Сваёй роднай зямлі краявіды,*
*Поры года ва ўсёй красе фарбаў,*

*Узрушальныя эпізоды,*
*Не, імгненні з жыцця прыроды:*
*Краска, грыб, матылёк сінякрылы,*
*Мятлік у фантастычным інеі.*

*Я цяпер зразумеў, што садоўнік*
*Нездарма назваў сына: Florian.*

## Фульда

*Гід распавёў ласкава мне,*
*Чым Фульда знакамітая,*
*Наколькі тутака ў цане*
*Індустрыя развітая.*

*Я чуў, пра ўсё як распавёў*
*Ён з гонарам у голасе,*
*А сэрцам слухаў салаўёў*
*Я ў індустрыйным горадзе.*

***

*Яблыня ў бела-ружовым цвеце.*
*Пакалыхвае ласкавы вецер*
*Вецце.*

*Я прайшоў-праехаў многа свету,*
*Ды нідзе не бачыў столькі цвету.*
*Цвету.*

*А яго так шмат, што гнуцца голкі.*
*Тут шчыруюць чмелікі і пчолкі.*
*Пчолкі.*

*У іх звоне столькі мілай моцы!*
*Як шкада: яго не чуе Моцарт!..*
*Моцарт.*

***

*У садоўніка дзень нарадзінаў —*
*Шостага траўня,*
*Калі ўсё яшчэ процьма работы;*
*Так зямельку вясна абудзіла,*
*Што паўсюдна паспець немагчыма,*
*Памагаць неадкладна трэба*
*Кветкам, кусцікам, дрэвам!*
*Цяжка яму, калі ім, жывым, дрэнна.*
*Не прыпомніць садоўнік старанны,*
*Калі ён святкаваў свае свята.*

*Зрэшты, хто калі бачыў,*
*Каб святкавала пчала.*

***

*У краме моднае вопраткі*
*Сімпатычная немачка,*
*З якой я разлічваўся*
*За прыгожыя рэчы,*
*Так нязмушана весела*
*Гаварыла па-руску*
*Сваё «До свидания»,*
*Што ў мяне словы-ластаўкі*
*Мігам выраслі:*
*«Saqen Sie bitte: Да пабачэння».*
*І яна паўтарыла за мной*
*Чыста-чысценька «Да пабачэння»*
*Ды з такою прыгожай усмешкай,*
*Што я ледзь не прамовіў:*
*«Ich will dir kussen!».*

*Ах, няхай бы прамовіў!..*
*Што б яна адказала?*

***

*Садоўнік сардэчны*
*Прамовіў аднойчы:*
*«Добраму сэрцу*
*Дрэнна заўсёды».*
*Калі процьма працы*
*Ў садоўніка ў садзе,*
*Гасцям ён паказвае*
*Франкфурт-на-Майне.*

*Ён быў там, вядома,*
*Кіроўцам і гідам, —*
*Стараўся гасцям даць*
*Паболей уцехі.*
*Вярталіся з песняй*
*Шчаслівыя госці.*
*Садоўніка ж дома*
*Чакаў хворы хлопчык.*

*І як ні спяшаўся*
*Садоўнік сардэчны,*
*Да лекара сына*
*Спазніўся завезці.*
*І мне падаліся*
*Крылатымі словы:*
*«Добраму сэрцу*
*Дрэнна заўсёды».*



Фота pixabay.com

***

*Дзякуй табе, садоўнік,*
*За гасціннасць тваю,*
*За ўтульны пакой і ціхі*
*І за бярозку ў акне,*
*Модніцу, у завушніцах,*
*За прыгажосць краявідаў —*
*Блізкіх вандровак дарунак.*
*А словы твае, а ўсмешкі,*
*З іх сонечнаю цеплынёю,*
*Я павязу з сабою*
*Цераз дзяржаўныя межы —*
*У родны май беларускі.*

## Сусветная знакамітасць

### Барыс Кіт

*Да ўгодкаў*
*слыннага беларуса*

*Ведаю Кіта навукі*
*Акіянскай глыбіні.*
*А жыве з ім дух свабоды*
*Светлазорнай вышыні.*

*Праз крывавае стагоддзе*
*Як ні вёў суровы лёс,*
*Да радзімай Беларусі*
*Чалавек любоў пранёс.*

*Уцякаў ад зла людскога,*
*Сам ратуючы людзей;*
*Мае чыстае сумленне:*
*Шкоды не чыніў нідзе.*

*Бог яго узнагародзіў —*
*Шлях адкрыў, і волю даў,*
*І гадоў яму, гадочкаў*
*Больш як сто падараваў.*

*Не здзіўлюся, калі ўбачу*
*Веснавым ласкавым днём:*
*Кіт сусветнае навукі*
*Пачуваецца арлом.*

### Жывое ўражанне

*Сто першы стрэў гадок*
*Цудоўны наш Зямляк,*
*Прыветлівы дзядок,*
*Рухавы, як юнак.*

*На міг пакінуў гмах,*
*Ад радасці цвіце,*
*Спусціўся, нібы птах, —*
*Сваіх спаткаць гасцей.*

*Прыязны, быццам брат, —*
*Гарыць вачэй святло!*
*Уразіць вас наўрад*
*Ягонае жытло.*

*Тут, у зямных вірах,*
*Хвалюе што каго,*
*Мяне — ягоны шлях*
*І кнігі пра яго.*

*Я з радасцю чытаў*
*Пра космас адкрыцця,*
*Якому ён аддаў*
*Зеніт свайго жыцця.*

*Радзімы нашай сын,*
*У сэрцы з ёй жыве.*
*Калі ён і адзін,*
*То з ім — вялікі свет.*

*Успомніць мае што,*
*Бо не забрала цьма!*
*Яму гадоў за сто*
*Далося нездарма.*

***22—23. 04. 2010 г.***

### Ён павярнуў свой лёс

*У Франкфурце-на-Майне*
*Прафесар знаны Кіт жыве,*
*Вучоны дужа дбайны*
*І добры чалавек.*

*Стаіць на трох кітох ён —*
*Сумленні, розуме, любві,*
*Перад людзьмі нітрох*
*Душою не крывіў.*
*Як доля ўратавала*
*Ад смерці у вайну,*
*Ад сталінскай навалы*
*Свой лёс ён павярнуў.*
*Не журавы, не гусі*
*Лятуць высокай чарадой:*
*Пад трыццаць год — на Беларусі,*
*За семдзесят — па-за мяжой.*
*Ёсць у навукі донар*
*Сусветнай — наш Зямляк,*
*Нам, беларусам, — гонар,*
*А справе — клічны знак.*

***Красавік 2010 г.***

# Маці, мама, анашым



Людміла АНДЗІЛЕЎКА



Фота media.az

«Трыццаць пяты» атрымаў глыбокае раненне ў вобласць грудзіны, жыцця заставаліся хвіліны. Я вылушчыў пігулку крайняга выпадку, уклаў у вусны. Яму не дапаможа сіняя, пад якой ты здольны цярпець усе смяротныя пакуты, выратавання не будзе. Інструкцыя дае права палегчыць сыход па выкананні загаду. Мы адпрацавалі стоадсоткава. Нас заставалася восем, цяпер... сем. Наважыўся падпіхнуць капсулу ў самы рот — ён адмовіўся, пахітаў галавой — не трэба.

— Раскажы... — прашаптаў ён ледзь чутна, захлынаючыся ружовай пенай. — Хто такая... мама...

Мог не тлумачыць, ведаю заўсёднае пытанне, што цікавіла ўсіх, хто тут са мной апынуўся: маці, што гэта такое, маці?

Гэта першая і адзіная тэма, аб чым загаварылі мы між сабой праз паўгода цеснага знаходжання разам. Шэсць месяцаў — ні слова, акрамя аператыўных каманд і перамоў.

Фармавалі групу Mortal Combat з неўлікованага матэр'ялу — з нічыйных, нікому не патрэбных дзетдомаўцаў. Я адзін вырас у сям'і, меў бацькоў, знаў маці.

Ля паміраючага знаходзіцца небяспечна, ён страціў недапушчальны аб'ём крыві, хутка тэмпература цела знізіцца да крытычнай адзнакі, GPS на яго шыі лопне, пырсне кіслотны фантан, пераплавіць усё навокал у каменную глазуру, ад Трыццаць пятага не застанецца плямы. Але са мною апошні час штосьці адбываецца.

У мой запраграмаваны мозг прабіўся вірус. Раптам стаў спыняць мяне на паўкроку — хто ты ёсць? Хто я?

І я зноў пачаў свой аповед.

— Мама — жанчына пяшчотная, цёплая. Яна заўсёды ласкава ўзіраецца ў твае вочы, усміхаецца табе. Абдымае моцна-моцна, гладзіць па галаве, лашчыць валасы, кратае шчокі, плечы. Яна нюхае цябе, цалуе ў твар, вушы, павекі, разглядае ўважліва пальцы на руках. Прыкладае да ілба сваю далонь — ці не захварэў. Яна называе цябе — сыночак, дзіцятка, мой мілы хлопчык. Ты засынаеш, а яна спявае табе ціхую калыханку...

— Дзясяты, дзясяты, адыходзь! Ён памёр, небяспечна! — пазвала Мархабо.

Мархабо — адзіны нумар, чыё імя я ведаў.

Падбіралі адзін да аднаго: не высокіх ростам, худых, жылістых, цярплівых жывёл. Такой жывучай жывёлай аказалася і Мархабо, ніхто не здагадаўся за паўгода: адна з нас — дзяўчына...

Апошні месяц засвяціла надзея на жыццё. Яна прызналася — пакахала мяне, назвала сваё імя. Не яе гэта імя, ведаю, Мархабо — пазыўны. Ніхто і ніколі не ўведае нашыя імёны. Мы пад нумарамі, ніхто з нас не ведае ніводнага чужога імя, не памятае свайго.

Калі Мархабо адкрыла таямніцу, расказала штосьці аб сабе, прыглядацца стаў — сапраўды, жанчына.

— Мы выжывем. Дзясяценькі, ты верыш? Нас хутка забярэ верталёт. Мы ўсё зрабілі як трэба, мы заслужылі жыццё. Вернемся ў Казахстан, дзіця народзім.

— Ты мусульманка, чаму ў цябе крыжык на шыі?

— Не ведаю. Крыжык гэты на мне быў заўсёды. Не памятаю нічога, акрамя дзіцячага дома. Верыш? У нас будзе дзіця! Яшчэ пару дзён — і мы дамоў паляцім. Больш ніколі не ўспомнім... што з намі было... ніколі!

Пасля першых месяцаў — як даўно гэта было! — службы ў арміі мяне выклікаў камандзір.

— Тебе, рядовой Канат Мурза Оспанов, выпала большая честь — служить в спортивной роте столицы нашей Родины, городе Москва.

— Мяне прызывалі тут. Казахстан мая радзіма.

— Ты дурак, рядовой Оспанов? Я ничего не путаю? Это же ты боксёр? Ты мастер спорта?

— Так точно!

— На тебя пришла персональная заявка. А ты не желаешь служить в Москве... мурза-канат?

Адчувалася, вымаўляе камандзір маё імя з маленькай літары, так гідліва, як брыдоту.

— Тут мае бацькі, уся мая сям'я. Хачу застацца ў Казахстане.

— Молчать! Кто тебя будет спрашивать?!

— Не хачу ў спортроту. Не хачу ў Маскву.

— Вон! Вон отсюда, тварь узкоглазая!

Камандзір задыхаўся ад злосці.

Зазваніў тэлефон — падняў трубку.

— Слушаю, товарищ генерал. Так точно, товарищ генерал! Провёл беседу, товарищ генерал. Никуда он не денется... Мы в порошок!..

— Отставить! Нас он больше не интересует. Хорошо объясняю? Здесь нужны только настоящие патриоты. Недорабатываете! Отставить.

Я быў зялёны, салага. Ці мог бы хто іншы на маім месцы прадбачыць, якая апраметная зеўрыла праз адтуленую маім юнацкім свавольствам прастору? Наступнай раніцай самаходам дабіраўся я ў глухую далёкую СК 12.

Парадак усёй ваеннай часці можна пазнаць ужо ад КПП.

Бетанаваны кораб, прыткнёны коса да агароджы, стаяў не выведзеным і ў ровень з пляцам. З яго акна даносіліся мацюкі, брыдкаслоўе. Там ляскалі картамі па фанерным стале, пілі віно, відаць, тут жа, за рогам, аблягчалі з-пад яго мачавыя пухіры — смурод віннага перагару і сікаў стаяў у спякоце густым плазам, нібы кораб КПП служыў прыбіральняй.

Ля варот вартавога не было. На мой стук звярнулі ўвагу не адразу, спачатку торкнулася ў фортку нецвярозая галава, цвыркнула слінай.

— Чё за хрен собачий? Какого х..?

— Рядовой Оспанов. Прибыл по месту службы.

— Чуваки, зырь, что за карась! — здзекліва заенчыла галава. — У нас таких не водится. Ща мы его быстро очистим и зажарим.

— Киданись-ка, открой ворота! — загадаў другі голас камусьці.

Выйшаў казах, яго каўбасіла ад віна, куражу, ад «выслужанай абароненасці»; паглядзеў на мяне, як умеюць глядзець толькі плебеі, смелыя пры гаспадары.

Мне стала балюча за яго, за сябе. З дзвярэй бетоннага карабля вываліліся трое, гатовыя да заяўленай пагрозы, але, агледзеўшы мяне, чамусьці, не рашыліся «чысціць і смажыць».

Цяпер думаю, каб вось там мы счубіліся — не было б таго, што здарылася потым? Ці лёс ужо вёў мяне неадступнай сцяжынай па курсе наканаваным?

Мінуў брудны дворык, ля разабранага УАЗіка таўкліся падпітыя лейтэнант з прапаршчыкам. Што ў іх, свята якое? Не хацелася верыць у будзёнасць вось такой службы.

Пры падыходзе да каманднага корпуса пачуў прывычныя для сябе гукі, яны заўсёды суправаджаюць баксёрскія трэніроўкі і турніры: удары, стогн, крык, хрып. Насцярожыўся: у невялікім будынку не было месца пад спартыўную залу. Падняўся шчарбатымі прыступкамі на ганак, у калідоры днявальнага не аказалася. Жудасныя гукі ішлі з шырока расчыненых дзвярэй. Убачыў: п'яны азвярэлы афіцэр збівае паўмёртвага азіята нагамі. Вуха адарванае, вока няма, зубы на падлозе, пальцы салдата вывернутыя ў анатамічна процілеглы бок. У шокавым стане я не паспеў разважыць — кінуўся абараняць хлопца.

Зламаў сківіцу капітану, сплюшчыў нос, выбіў ключыцу, у яго лопнула барабанная перапонка...

Потым білі мяне, каталі бясконца і бязлітасна, падвесілі ўніз галавой у каменны калодзеж. Колькі вісеў — не ведаю. Я траціў свядомасць, вяртаўся да цямы, зноў траціў свядомасць, апрытомніваў. Калі да мяне падышла смерць, я быў у поўным самаадчуванні, бачыў яе, як цяпер магу бачыць жывую істоту. Запыталася — ты яшчэ жывы? Пачакаю... 

Адбыўся суд, два гады турэмнага ўвязнення.

Адзін афіцэр параіў:

— Цябе ўсё роўна заб'юць. Двума гадамі не адкупішся. Згаджайся на «вучэбку», там адмысловых байцоў гатуюць у Афганістан. Трэнінг «Спарта». Два месяцы падрыхтоўкі, пару месяцаў у Афгане, ёсць шанец выжыць — і воля. Тут у цябе ніякага шанцу няма, сам ведаеш, не даруюць табе абразы рускага афіцэра.

Згадзіўся.

За саракадзённы тэрмін падрыхтаваць бездакорнага ваяку — пад сілу толькі даўна, моцна наладжанай сістэме. Галоўнай задачай ставілі выбіць з чалавека ўсё да кроплі чалавечае. Псіхалагічны трэнінг на тым стаяў, каб зрабіць з нас фізічна жывую баявую машыну. З першых хвілін забаранілі імёны: «Вы ноль, ничто, никчемность, горстка костей с мясом, ваша ценность только в чётком выполнении задания».

З таго пачынаўся трэнінг, тым завяршаўся. Імёны свае забылі хутка.

Рухомыя вяршыні...

У падземны ангар нас заганялі з розных бакоў, расчыняліся люкі ў столі, з іх сыпалася каменне.

Задача: не звяртаючы ўвагі на разбітыя галовы, рукі, ногі ўскараскацца на вяршыню. Каго засыпала — засталіся там навечна. Пяць-шэсць чалавек гублялі штодзень.

Рухомыя мішэні...

Стрэльбішча. Сапраўдная зброя. Цэлімся па мішэнях — стрэл, яшчэ стрэл. Шчыруем — далёка расстаўленыя мяхі, дзясяткі мяхоў, сотні мяхоў куляюцца долу. Канец заняткаў, нас строем вядуць паказаць «рэзультат». Гара мерцвякоў пад сцяной. Гэта людзі?! Нас ванітавала. Мы трэніраваліся па жывых мішэнях, забівалі дзясяткі людзей, сотні... Каго? Хто яны? Зэкі? Бамжы? Адкуль іх сюды навезлі столькі?

— Кто откажется принимать сейчас пищу в столовой, окажется в этой куче.

Трое есці не змаглі.

Вітанне сябра...

Штоpанак чакала сусрэча з «сябрам». У закратаваны калідор выпускалі з вальера адзін на адзін галодную нямецкую аўчарку, нацкаваную на жывое чалавечае мяса. Перад тым правялі інструкцыю — як зручней забіваць сабаку. У цябе толькі рукі, ніякай зброі.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Маці, мама, анашым

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Першыя дні калаціла да шаленства ад жаху, брыдоты. Чалавек звыкаецца з абставінамі альбо гіне. Праз тыдзень я ўжо з асалодай чакаў сустрэчы, маракаваў, як буду дзейнічаць сягоння: заганю руку па локаць у гарляк, жылу перакушу, ламану ў нос альбо струшчу яйцы? Кожная «сустрэча з сябрам» давала чалавечыя згубы, бадай, самыя вялікія з усіх відаў падрыхтоўкі. Я мог ганарыцца сабой, забіў дваццаць аднаго аўчара!

Дзесяць навучэнцаў загінула на трэніроўках з парашутам.

Выдалі абмундзіраванне — форма амерыканскіх байцоў Mortal Combat. На нас, пры нас — усё амерыканскае. Вопратка «хамелеон» — за пяць метраў адзін аднаго не бачым. Сярод камення, пяскоў, на дарозе, у кустоўі калючак баец зліваецца з прасторай.

Дэсант у колькасці сарака двух адзінак скінулі на Афганскую пякельную зямлю, раён Пешавара. Прызямліліся сорак, дваіх не знайшлі. Адлік пачаўся. Пачаўся ён яшчэ з падрыхтоўкі, толькі там нас ніхто не лічыў: ты — мяса, ты — муха, тля! Не здолееш выжыць, ты куча гною! — убівалі ў нашы галовы разам з напамінам: імя ў цябе няма, толькі нумар. Дзясяты — я. А тут — кожны баец каштоўнасць! Магчымасць і надзея на выжыванне цябе самога.

На кожным — ашыйнік, у ім GPS, справа — мікрафон, злева — навушнік.

Каманда: "Пить зелёную таблетку".

Зялёная — чысты розум, сіла, энэргія. Чырвоная — сон. Сіняя — з адарванай нагой будзеш бегчы як арабскі скакун на іпадроме, яна абязбольвае да шызы, да абсалюту. То наша сілкаванне, яшчэ сухія пакецiраваныя сумесі, вядома, і тое, што здабудзеш сам.

Першы бой — псіхалагічная адаптацыя, забілі сто шэсцьдзесят два афганцы.

Каманда: «Пить красную». Імгненны сон, дзе б ён цябе ні застаў: на камяні, у канаве, на нагах. Ты павінен быць у стане гатоўнасці да наступнага бою: спаць!

Мы пілі мачу, елі чарвякоў з ранаў на сваім целе, калі верталёт з дастаўкай груза спазняўся.

Чацвёра сутак у засадзе ляжалі мы ўдзесяцярох без сну, без ежы, без вады, нерухома, ні слова. Нарэшце паказалася калона афганскіх ваенных. Іх было дзвесце пяцьдзясят байцоў, вымуштраваных, абучаных — нас дзесяць. Усе яны засталіся ляжаць на дарозе. Калі адыходзілі з месца дыслакацыі, я бачыў, як стагналі параненыя, курчыліся ад пакутаў пад бязлітасным сонцам — пашкадаваў куляў дабіць. Ішоў па іх руках, шыях, галовах...

Тады ўпершыню ўва мне і прагучаў вірусны голас: ты хто такі ёсць?

Гэты голас сумнеўу мне выйшаў бокам. Хутка мяне параніла ў сцягно. Я ўбачыў сваю костку ў месіве вывернутага мяса. Болю не адчуваў: сіняя!

У ране завяліся тлустыя лічынкі, выкармышы з майго цела і крыві. Я іх са смакам выграбаў у далонь, трушчыў зубамі — яны лопалі ў роце, сышлі за мяса — толькі так! Я еў сам сябе?

Пасля таго боя засталося нас васьмёра, з моцна параненым Трыццаць пятым. Мы паведамілі каардынаты ў цэнтр. Чакалі верталёт, ён павінен быў зняць нас з гары, забраць на радзіму — мы перавыканалі загад тройчы. Групу пасылалі на два месяцы, не верылі, што выжывем, працягнем больш — выжылі; пратрымаліся сем месяцаў...

Вяртушкі доўга не было. Сядзелі на вяршыні тыдзень. Запасы скончыліся, таблеткі таксама. Мархабо прапанавала схадзіць уніз па вінаград у кішлак. Двое паслухалі, я не збіраўся ісці, у мяне яшчэ не зажыло сцягно, не ведаю, як ёй удалося мяне ўгаварыць. Чаму я пайшоў?

Мы спусціліся, нарвалі вінаграду, пачалі падымацца наверх. І тут гул — ура! Гэта быў наш верталёт! Мы прыспешылі ход, махалі яму рукамі, смяяліся, плакалі ад радасці. Гэта жыццё! Мы выстаялі, мы змаглі! Мы сябе перасілілі! Мы вяртаемся дамоў!

Вяртушка завісла над пляцоўкай, з яе пачалі шчыльна касіць кулямётнымі чэргамі — свае расстрэльвалі сваіх байцоў. Потым скінулі дзве бочкі паравай кіслаты. Верталёт крутануўся над пляцоўкай і знік на гарызонце.

Нас знішчалі, каб ні следу, ні памяці, мы — сведкі, а сведкі ім не патрэбны.

Я так крычаў, што не чуў свайго голасу — парваў звязкі, аглух. Падняліся на гару, едкі смурод не даваў наблізіцца да месца. Абасцалі шкарпэткі, імі закрылі насы. Мы ўглядаліся ў бліскучую гладкую глазураваную пляцоўку — ні шматочка ад людзей. І тут я ўбачыў апалены крыжык — прывітанне Мархабо! Як мог алявяны крыжык ацалець? Ніякімі законамі хіміі, фізікі не патлумачыш... Я забраў яго на памяць. У той момант не разумеў, што Мархабо выратавала мяне, угаварыўшы пайсці па вінаград. Падаравала мне жыццё.

Несунімальная злосць штурхала ўніз. Там, у нізіне, зусім недалёка стаяла наша воінская часць. Пайшлі ноччу, звязалі трох вартавых, пераапрануліся. Маглі б пакласці і ўвесь састаў. Дзейнічалі адкрыта, без подласці.

Палкоўнік, п'яны ў зюзю, сядзеў за сталом у сваім пакоі, апрануты ў споднее, глядзеў порнафільм.

Я «доложил по форме»:

— Бойцы отряда «F» выполнили задание, ждём дальнейших указаний.

Палкоўнік схапіўся за пісталет, мы зрэагавалі. Да яго не даходзілі словы, штосьці няўцямнае рыкаў, быкуючы грудзінай. Прыйшлося прымяніць прыём ацверажэння: я адцягнуў скуру на яго жываце, прастрэліў вертыкаль. Афіцэр апаражніўся пры мне...

— Свяжитесь с центром, доложите: группа «F» выполнила задание, осталось в живых трое бойцов, ждём распоряжений.

На гэты раз пачуў, загаварыў у трубку не сваім голасам.

— Здесь три ваших «бультерьера»... выжили...

З трубкі панесліся шматпавярховыя мацюкі. Там ніяк не маглі адфільтраваць інфармацыю. Нарэшце лаянка сціхла, доўгае маўчанне азначала — раяцца.

— Чакайце. Высылаем самалёт.

Нас даставілі ў Казахстан.

Так і дазналіся, кім служылі пры Савецкай Арміі. Мы былі жывёлай. Бультэр'ерамі.

Калі ў чалавека тысячу разоў запытацца, як яго завуць, на тысяча першы — засумняваецца, пачне не давяраць свайму розуму, памяці.

Допыт, выпрабаванне цягнуліся гадзінамі, няспынна, перахросна, атакай.

Мы нічым не маем пацвердзіць сваё паходжанне, прыналежнасць, пры нас няма ніякіх дакументаў, калі штосьці было — засакрэчана на вякі.

— Имя?

— Имя?!

І тут я чую ля самага вуха ціхі мамін голас — Канат, сынок мой, цябе завуць Канат, хлопчык мой мілы...

— Канат.

— Фамилия?

— Оспанов.

— Отец?

— Мурза.

— Имя?

— Канат.

— Где родился?

— Казахстан.

— Мать? Имя? Отец? Имя? Как тебя зовут? Год рождения? Имя?!

— Канат.

— Имя?

— Канат

— Имя?

— ...

Ні на хвілінку нельга ўсумніцца, бо страціш свядомасць.

— Канат.

— Где рождён?

— Казахстан.

— Имя?

— Канат.

— Год рождения?

— 1963

— Имя?!

— Канат

— Фамилия?

— Оспанов

— Имя?!

— Канат.

— Встать!

Я падняўся на ватных нагах з лавы — на ёй, пад ёй — лужына, не менш вядра поту вылілася з мяне.

— Вперёд!

Зараз клацне зброя, грымне стрэл, мяне заб'юць у спіну, як здрадніка... Маё вуха ловіць рухі затвора. У вушах звон! Стрэл...

— Прямо!

Жывы, не забілі. Жалеза шчоўкае. Стрэл? Замок на кратах. Стрэл?

— На пра-во!

Жывы? Жывы.

— Прямо!

Я жывы!

— По лестнице вверх!

Жывы... жывы. На мяне абрынаецца дзвесце літраў ледзяной вады...

— Канат Мурза Оспанов, ты прошёл испытание.

Не ведаю, ці прайшлі выпрабаванне двое маіх саратнікаў — у іх не было каму падказаць забытае імя. Ніколі ў жыцці я іх больш не сустракаў.

— Теперь ты всю оставшуюся жизнь будешь жить по нашим правилам. До самой смерти ты будешь зависеть от нас, выполнять все поручения и задания. Первое тебя ждёт.

Так сустрэлі мяне ў міністэрстве абароны.

Я атрымаў загад таемна суправаджаць ад мяжы да самай Караганды груз у сто пятнаццаць кілаграм гераіну.

Да мяне (праз недавер?) прыставілі чачэнскага баевіка. Мы праследавалі джып, пакуль нас не заўважылі, завязалася перастрэлка. Калі груз апынуўся ў нашых руках, акрамя наркотыкаў там знайшлі пакунак з алмазамі, золатам і чамаданы валюты. Чачэн прапанаваў:

— Давай возьмём себе всё. Героин доставим. Кроме наркоты ничего не обговаривалось.

— Нет!

— Хотя бы доллары заберём — на всю жизнь хватит.

— Нет!

— Дурак. Это их груз. Они его ведут от «А» до "Я", твоими руками убирая лишних свидетелей и подельников, чтоб не делиться. Наркотрафик крышует госсистема. Ты у них вместо «ломика и лопаты».

— Ещё слово — стреляю. Чья наркота — мне всё равно. На криминал не пойду...

За гады службы таемна адзначаны дваццаццю пяццю ўзнагародамі — не прыняў. Каб іх уручылі адкрыта, у свой час — ганарыўся б. Не хачу хаваць пад коўдру сваё жыццё. Не хачу і ўспамінаць тыя гады.

Самы востры, пякучы страх перажыў пры падпісанні папер пасля праверкі. Уявіў, як мяне заб'юць стрэлам у спіну па дарозе да дому і я ніколі... Я ніколі не ўбачу маці?

Толькі пад канец другога тыдня звыкся я са сваім імем. Першыя дні плечы сціскала сутаргай, я торгаўся, азіраўся — каго тут завуць Канат? Я — дзясяты...

Мама, я выжыў тваёй любоўю. Ты вяла мяне кожным крокам. Я чуў твой голас, трымаў тваё цяпло. Знаў: чакаеш мяне, памятаеш штохвілінна, ратуеш ад небыцця, ад шаленства, ад бяспамяцтва, ад бесчалавечнасці. Я выжыў, я выжыў адзін, бо ў мяне ёсць ты. У тых не было збаўцы. Ты маё выратаванне.



Фота pixabay.com

# Дажджавая акварэль



Людміла СІМАНЁНАК

***

*Ад зямлі да неба блізка:*
*Дрэва, што між іх жыве,*
*Дамавінай ці калыскай*
*Рупны майстра назаве.*

*Сон то сумны, то вясёлы*
*Па-за кратамі павек*
*Між жывёлаў і анёлаў*
*Бачыць грэшны чалавек.*

***

*Калі да цела сон прыходзіць,*
*У вечаровы свой дазор*
*Бліжэй да птушак і да зор*
*Душа бадзяжная ўзыходзіць.*

*Пакуль не час яшчэ прачнуцца,*
*Драбіны хісткія — нішто.*
*Паверхаў дзесяць альбо сто —*
*Абы хапіла сіл вярнуцца.*

## Віцебск

*Ў пякельна-гістарычныя віры*
*Так месту акунуцца давялося,*
*Што ў Гаспадыні Замкавай гары*
*Ні замкаў, ні гары не засталося.*

*Бязлітаснасць чужынскае рукі*
*Шматкроць на шыях месцічы*
*спазналі.*
*Чужых паданняў збродныя радкі*
*На попеле жытла свайго чыталі.*

*Хоць да спазнання роднай глыбіні*
*Пакуль нам —*
*як да Месяца па шпалах,*
*Збіраюцца у храмы камяні,*
*Калісьці раскіданыя нядбала.*

*Ад ненадзейна-кволае вясны*
*Чакае сонца пад зямлёй насенне.*
*З-пад сутарэнняў просяцца у сны*
*Паданняў родных*
*згубленыя цені...*

***

***Давіду Сімановічу***

*Так у Віцебску і вядзецца:*
*Адганяючы прэч нуду,*
*Супраць ратушы геній месца*
*Пасміхаецца ў бараду.*

*Пасля сэлфі для нарачоных*
*З лёгкай зайздрасцю ім услед*
*Пазірае маленькі, чорны*
*Пералётны расейскі паэт.*

*Надвячоркам згасаюць крокі.*
*Падміргнуўшы цішком наўкол,*
*Саступае на дах з аблокаў —*
*Каб у скрыпку зайграць —*
*анёл.*

*Адвярнуўшыся нечакана,*
*Караткевіч ў руку дыхне:*
*Як, паводле найноўшых планаў,*
*Быць пад дрэвам яму ці не?*

*Так у Віцебску і вядзецца:*
*Варухнуўшы край барады,*
*Запрашае вас геній месца*
*На экскурсію праз гады.*

***

***Памяці Уладзіміра Плешчанкі***

*Не сціраюцца з дыску фантомы —*
*Дома ў Віцебску ты ці ў гасцях:*
*Ля народнага Сіняга дома*
*Беларускі хвалююцца сцяг...*

*Вежы замкаў і вершнікі ў полі*
*Нерэальней за мройныя сны.*
*Толькі цішыцца крок мімаволі*
*Ля жалобна збялелай сцяны.*

*Непадлеглы ні страху, ні стоме —*
*Не ўцячэ да чужых берагоў.*
*Ля шматлюднага Сіняга дома*
*Сцяг чакае народу свайго.*

***

*Ідзе на праменьчык*
*стрыножаны конь,*
*А чорныя людзі хаваюць агонь,*
*А чорныя людзі*
*трымаюць ключы*
*Ад самае доўгай зімовай ночы.*

*Паветру ніколі не вераць на пах,*
*Хаваюць пальчаткамі*
*кроў на руках,*
*І гальштукаў петлі*
*на глотках сталёвых*
*Ствараюць карысную звычку*
*у чорных.*

*Знішчэнне жывога*
*мянуюць прыборкай,*
*Капаюць глыбокія норы*
*на ўзгорках,*
*А потым вылазяць*
*з жахлівай нары*
*У белае масцы да чорнай пары.*

*А потым нястомна-тупымі*
*вачамі*
*Праз кожную шчыліну*
*сочаць за намі.*
*Ці, быццам вампіры,*
*кагосьці кусаюць*
*І з белага ў чорнага*
*ператвараюць.*

*І сёння пад намі ў начную пару*
*Бяздонную чорныя рыюць нару.*

***

*На юбілей і проста без нагоды*
*Каменным ботам па жывой траве*
*Ідуць на горад помнікі з усходу —*
*Плацдарм заняць у нашай галаве.*

*Каб у хвіліну роспачы ці страху,*
*Раней за распачатую вайну,*
*Маглі, чарговы раз не даўшы маху,*
*Нож увагнаць падступна у спіну.*

***

*Не люляе святлом і ласкай*
*Праўды плямістай шлях-дарога.*
*Смоўж паўзе цераз лес пастаўскі,*
*Везучы напамін былога.*

*Вечна помніць не стане сілы,*
*За стагоддзі зямля зраўняе*
*Пад чарнічнікамі магілы*
*Партызанаў і паліцаяў.*

*Ну а тым, хто палёг бязвінна,*
*Не хапаўшы у рукі зброю,*
*Не здабыць і радка ўспаміну —*
*Долі здраднікаў ды герояў.*

*Родны край — што мішэнь у ціры:*
*То штыкуюць, а то страляюць.*
*Лёгка трапіць у дээрціры,*
*Не абраўшы па сэрцы зграю.*

*Кат дазволіў з вялікай ласкі*
*Целы ўзяць з гушчару ляснога...*
*Узыходзяць і вянуць краскі.*



Фота pxhere.com

*Смоўж вязе —*
*колькі хопіць змогі.*

***

*Схавацца б, як у дзірку,*
*Пад шчыльным парасонам,*
*Дзе думкі у мундзірах*
*Аднолькавых фасонаў,*

*Дзе толькі крышку тлумна*
*Дні шэрагамі крочаць,*
*Дзе праведна і сумна*
*Без сноў мінаюць ночы.*

*Дзе проста ўсім адразу*
*Вядомыя дазвання*
*Разумныя адказы*
*На мудрыя пытанні.*

***

*А колцы завіваюцца ў тунэль,*
*І залаты цяжар сціпае скроні.*
*Мне б лепей*
*дажджавую акварэль —*
*Не сонечнасць,*
*што дастае сягоння.*

*Карункі крылаў —*
*выцінанка сноў —*
*Схавалі твар ад прамянёў*
*нагрэтых,*
*І тая птушка заспявала зноў*
*Пра бліжні свет,*
*нябачны мне дагэтуль.*



Фота pxhere.com

***

*Так хацела сказаць я штосьці...*
*Даядае туман сляды.*
*Развітаемся мы на мосце*
*Безнадзейна і назаўжды.*

*І, відаць, запазнелым рэхам*
*На няўмольна прамым шляху*
*Не гукну я сабе ў пацеху*
*Ні узнёсласці, ні граху.*

***

*Зіма у лютым быццам усур'ёз,*
*А ледзяшы ўжо галасы*
*рыхтуюць,*
*І крышку сумна,*
*што мастак-мароз*
*На новых вокнах*
*кветак не малюе.*

*Затое вось праверу акурат,*
*Схаваўшы грудзі мяккай*
*душагрэйкай,*
*Ці хопіць за маім вакном*
*зярнят*
*Для райскіх птушак —*
*шэрых верабейкаў.*

***

*На доўгі век ці на хвілінку*
*У небе крэслячы сляды,*
*Яшчэ не ведае сняжынка,*
*З кім побач ляжа і куды.*

*Ці то пры полюсе ў сумёце*
*Заблішча зоркай снегавой,*
*Ці то ў няскончаным палёце*
*Жывой абернецца вадой.*

*На нос шчаслівага дзіцяці*
*Або на покрыва труны...*
*На чалавека як ні ўпасці —*
*Не датрываеш да вясны.*

***

*Ты дарэмна мяне пытаеш*
*Пра вытокі, шляхі, прычыны.*
*За люстэркам жыве чужая,*
*Невядомая мне жанчына.*

*Па-за срэбна-празрыстай сценкай,*
*Дзе прынад і вабнотаў многа,*
*У яе расхінутых зрэнках*
*Гінуць промні святла жывога.*

# Хата: жыхары, гаспадары ды іншыя насельнікі

## Замалёўкі на палях сямейнага альбома



Васіль АЎРАМЕНКА

### Шашаль і святло ў канцы тунэля

Жыла-была адна хата. Чаму жыла? — спытаеце. І сапраўды! Хата толькі была, а жылі якраз у ёй — мышы ды каты, мухі ды павукі, макрыцы ды прусакі, іншыя насельнікі і кватаранты. І, вядома ж, не абышлося без самых прыкметных хатніх жыхароў — людзей. Людзі, увогуле, вельмі саманадзейныя істоты, бо лічаць сябе галоўнымі і бадай адзінымі насельнікамі хаты. Але нават калі ты нешта пабудаваў і лічыш тое толькі сваім, — будзь упэўнены: заўсёды знойдзецца нехта, хто будзе карыстацца вынікамі твае працы і без твайго ведама. Асаблівым нахабствам, як мне здаецца, надзелены найбольш таямнічыя насельнікі хаты — шашалі.

Сваю рыпучую дзейнасць шашалі пачынаюць у самыя ціхмяныя гадзіны, перагрызаючы маленечкімі сківіцамі бярвенне сцен. І няхай было б тое шкодніцва бязгучным, але ператварэнне здаровага дрэва ў пацяруху суправаджаецца такім шкрабучым рыпам, што лепш бы слухаць свінячае чвяканне… А галоўнае, гэтыя акустычныя дыверсанты жывуць абсалютна аўтаномным жыццём, незалежным ад сезону, надвор'я ці пары сутак. На іх не паскардзішся, як на неўгамаваных суседзяў, і не шуганеш, як марцовага ката ці брахлівага сабаку. Яны могуць парушыць і сон, і настрой, і хатні спакой.

Толькі потым, распілоўваючы старое бярно, калі-нікалі сустрэнеш гэтую пачварку ў канцы яе жыццёвага шляху — у сляпым тунэлі, шчыльна забітым сухімі вегетарыянскімі выпражненнямі. Часцей гэта бывае ўжо засушаная шкарлупка, і помста губляе ўсякі сэнс, бо расправа над маленькай муміяй не выклікае ніякіх эмоцый. Значна радзей можна патрапіць на жывога залацістага чарвячка і, расчавіўшы яго, атрымаць мізэрную кампенсацыю за шматгадовыя «рыпучыя» катаванні. Але і яна будзе перакрэслена гідлівасцю ад выгляду жаўтлявых вантроб пераможанага ворага.

А ці ж вінаваты шашаль, што, усё жыццё праводзячы ў цемры, вымушаны прагрызаць дарогу ў будучыню, у літаральным сэнсе прапускаючы яе праз свае шлункі. Да таго ж, не маючы ніякіх шанцаў выйсці за межы некалькіх бёрнаў роднае хаты. Жах! Ад такой безвыходнасці можна і зарыпець, і заскуголіць. І той скрыгат, па сутнасці, будзе адзіным, што пакіне межы жыццёвай прасторы шашаля, бо, як і пасланыя чалавекам у космас радыё-сігналы, ён сведчыць: «Я ёсць тут, я яшчэ жывы, знайдзіце і паспрабуйце вызваліць мяне адсюль».

Але парадокс у тым, што калі становіцца відно сонца — надыходзіць капец: святло для шашаля — знак смяротнай небяспекі і блізкага канца.

У кожнага свае погляды на дабро і святло, цемру і зло, і ў шашаля яны дакладна іншыя, чым у дзятла ці чалавека. Навошта яму сонца, якое шануюць дзюбатыя і двухногія, яму дастаткова драўлянай цемры і цішыні, якую можна так лёгка парушыць.

Аднак з цеснай прасторы шашалевых тунэляў завітаем у самую хату, і пакуль у яе цёмныя куты і закуткі.



Фота realt.by

### Мухі, павукі і выратаванне прыгажосці

Што такое прыгажосць? Людзі даўно задаюць гэтае пытанне і па-рознаму адказваюць на яго. А адзін з вялікіх фантазёраў XIX стагоддзя нават прыпісаў прыгажосці ролю «выратавальніцы свету». Ад чаго яна выратуе, не было ўдакладнена, але калі давядзецца ратаваць свет ад чалавецтва, то, пэўна ж, у яе нічога не атрымаецца. Выратаваць свет ад людзей ужо немагчыма, тым больш, што людзі не могуць выратаваць нават саміх сябе. Па сутнасці, уся дзейнасць чалавека зводзіцца да ачалавечвання таго, што чалавечым не з'яўляецца. А прыгожае ў такім выпадку якраз тое, што вельмі «падобна на нас». Ці хаця б крыху нагадвае нам нашыя формы, прапорцыі ці спосабы бытнавання.

Здаровым людзям заўсёды падабаюцца людзі, але не падабаюцца павукі, смаўжы ці васьміногі, бо ў тых нелюдзяў зусім мала агульнага з homa sapiens. Непадобнасць частак выклікае агіду ці страх, а радыкальная непадобнасць (пачварнасць) — нават жах.

Вось і з павукамі мы жывём у хаце ўсё жыццё, а ніяк не можам іх палюбіць. Гідзімся ці жахаемся, хоць і шкоды ад іх не маем. Некаторыя гультаяватыя гаспадары нават лічаць іх карыснымі, бо павукі ловяць мух, адвечных ворагаў хатняга здароўя і камфорту. Хоць тыя 3—4 мухі, што патрапляюць у павучыныя пасткі, не робяць «надвор'я». Летам у хаце тусуюцца дзясяткі і сотні мух, а колькасць павукоў наўпрост залежыць ад колькасці іхніх ахвяраў. Няма мух — няма чаго рабіць і павукам. Такое можа быць у горадзе на дваццатым ці трыццатым паверсе, але ў хаце, што стаіць на сырой зямлі, побач з пуняй і дарогай, па якой ходзяць каровы — яно нерэальна. Таму і жывуць васьміногія мухаловы ў кутах і шчылінах, снуючы сваё павуцінне — другую эстэтычную непрыемнасць хатняга інтэр'ера. А першая, як вядома, — гэта самі мухі.

Рой мух на вакне, над сталом ці вакол жырандолі сапсуе настрой любой гаспадыні. Бо гэта не толькі пагроза здароўю, але і прыгажосці. Акрамя таго, што хаатычная мітусня надакучлівых жужэлак не радуе ні вока, ні вуха, пасля сябе яны пакідаюць маленькія, але шматлікія сляды жыццядзейнасці, прыбраць якія не заўсёды магчыма. Заседжаныя мухамі сцены, столь, мэбля — хатняя праблема з даўніх часоў. А тое, што гэта экалагічна-правільныя (ці мо «чыстыя»?) прадукты, не парадуе і самага зацятага аматара эка-турызму…

А вось павукі наадварот — вельмі любяць мух, якія аднак пазбягаюць іхніх задушлівых абдымкаў. А хто любіць павукоў? Няўжо ніхто? З аднаго боку, быць абсалютна нелюбімым крыўдна і сумна. А з іншага?.. Радуйся, што цябе ніхто не з'есць! Знаўцы, праўда, кажуць, што некаторыя павучыхі ўсё ж любяць павукоў, бо пасля сумеснага сэксу іх ядуць (якая не па-людску прыгожая жарсць!). Так што не ўсё безнадзейна і для павука: і ён прыносіць асалоду іншым, бывае камусьці патрэбны і падтрымлівае любоўна-харчовы кругазварот жыццёвага кола… Аднак мы адхіліліся ад галоўнай тэмы — эстэтыкі; і звернемся нарэшце да павучынага мастацтва.

Хоць творчасць нашых суседзяў па хаце — павуцінне — не вельмі шануецца дбайнымі гаспадынямі, аднак яно мае адзнакі мастацтва. Па-першае, гэта вынік працы: нешта сярэдняе паміж ткацтвам, пляценнем і эксклюзіўным ліццём натуральных валокнаў. Па-другое, адчуваецца добрая геаметрычная падрыхтоўка: моцныя радыяльныя струны-промні злучаныя тонкімі паралельнымі сектаральнымі ніцямі, а ў выніку — надзейны шматкутнік-ветразь, які адчувае далікатнейшыя рухі паветра.

Кажуць, што сапраўдная прыгажосць правяраецца матэматыкай. Павукі былі ці не першымі, хто гэта зрабіў без універсітэцкай адукацыі. Здольнасць да мастацкага пляцення і азы геаметрыі яны атрымалі ў спадчыну разам з талентам эквілібрыста і фантастычна цярплівага «паляўнічага-з-засады».

Вядома, павуцінне ў хаце мала хто з нас палічыць упрыгожаннем, але сам павук, здаецца, усё ж людзей зацікавіў. Вобраз чалавека-павука, што стала атабарыўся ў мас-культуры, сведчыць пра станоўчы патэнцыял гэтай істоты. Калі не міфічная прыгажосць Дастаеўскага, то мо рэальны чалавек-павук стане выратавальнікам свету?

Небывалая моц, нечалавечы спрыт і чэпкасць разам з розумам і высакародствам homa sapiens робяць яго амаль непераможным змагаром. Але галоўны пасыл гэтай неа-фальклорнай байкі ў тым, што абсалютнае зло перамагаецца не проста дабром, як і цемра — не святлом, а сумессю дабра і зла. Альбо так: непапраўнае зло перамагаецца правільна-кіраваным злом, якое ў працэсе барацьбы і становіцца дабром. Не зусім прыгожа і кананічна, затое эфектыўна і рэалістычна…

Між тым, хатнія павукі застаюцца маласімпатычнымі істотамі, якія ладзяць свае ціхія справы ў цёмных закутках, куды мы стараемся заглядваць як мага радзей. Гэткае мірнае суіснаванне двух- і васьміногіх драпежнікаў, якія жывуць пад адным дахам, ды на розных эвалюцыйных ўзроўнях. Хаця ў літаральным сэнсе — павукі вышэй, бо месцяцца звычайна пад столлю альбо нават на гарышчы. Вось туды мы і заглянем цяпер…

### Паддашак і падсвядомасць

Гэтае месца хаты, якое людзі рэдка наведваюць, мне падаецца лепш называць паддашкам. Бо гарышча — нешта занадта вялікае і страшное. Вышэй за гару і больш за хату. Дый на сапраўдным «гарышчы», мусіць, жыве якаясь «страшыдла-гарылішча». А тут — усё ціха і будзённа: падняўся па драбінах на два з паловай метры — і ты ў сухім цёмным месцы, дзе няма звычных вокнаў і сцен, а два шыферныя схілы трымаюцца на кроквах і дошках, сыходзячыся над галавой.

Сапраўды — ціхамірнае і, між іншым, самае пыльнае месца пад дахам, бо за 70 гадоў існавання хаты ні разу не прыбіралася. Калі дах звонку мые дождж і сушыць вецер, у хаце — таўды-сюды прыбіраюцца самі людзі, то на паддашку векавы пыл, вэрхал і закінутасць. Матляюцца кудлатыя шматкі старога павуціння, агідна чапляюцца за твар і са звонам лопаюцца нябачныя ніці свежага павучынага дбання. Над галавой сям-там вісяць шэрыя шархатыя кублы асіных гнёздаў, па́ра спарахнелых бярозавых венікаў і забытая птушыная клетка. На мяккай падлозе з тырсы, кастрыцы і прэлага лісця валяюцца старыя кухвайкі і паліто, дзіцячая калыска, школьныя падручнікі і сшыткі паўвекавой даўніны. І ўсё гэта пакрыта тоўстым слоем пылу.

Як нашая падсвядомасць збірае разнастайныя жыццёвыя ўражанні, так і паддашак назапашвае старыя рэчы, якія могуць калісьці спатрэбіцца, а могуць і застацца забытымі там назаўсёды. Ну, а пыл — вечная, незнішчальная субстанцыя, свайго роду ўрэчаўлёны і паслойна складзены час. Кажуць, што інфармацыя не знікае без следу, а захоўваецца ў вадзе, эфіры ці зямлі. Не выключэнне і пыл, які таксама «фіксуе» адбіткі падзей, што здарыліся на ягоным вяку, калі ён быў яшчэ «маладым» і бестурботна лунаў у паветры. Складзены ж за многія гады, ён — як нямы сведка аб мінулым. Але ці такі ўжо нямы? Мо проста мы не настолькі мудрыя і тэхналагічна ўзброеныя, каб чытаць мінулае па пыле?

А яшчэ на паддашку заўсёды жыве таямніца, бо менавіта тут бываюць і нечаканыя знаходкі, і цудоўныя пераўтварэнні, а часам пачынаюцца незвычайныя прыгоды. Ды наша хата яшчэ задужа маладая, каб захаваць царскія залатоўкі ці хаця б якія «керанкі», а ўсе «карлсаны» ды іншыя прывіды, як вядома, водзяцца толькі ў горадзе, на больш камфортных паддашках ці, бадай, ужо на сапраўдных гарышчах.

Аднак казкі і показкі — то адно, а рэальны паддашак — зусім іншае. Гэта ці не самае непрыглядное месца, створанае чалавекам. А такая дэталь паддашкавага інтэр'еру, як комін, падкрэслівае гэтую акалічнасць. Крываваты, перамазаны засохлай глінай, з чорнымі пацёкамі смалы між чырвоных цаглін, ён у рэйтынгах антыпрыгажосці мог бы падзяліць п'едэстал з дашчатым сартырам без дзвярэй ці старым калгасным кароўнікам.

Але ягоная карысць пераважае эстэтычныя хібы. Бо комін — гэта аорта, што злучае хатнія вантробы з вонкавым светам, праз яе хата дыміць і дыхае, услухоўваецца ў неба, а зрэдчас атрымлівае ад яго знакі ўвагі. Гламур тут адпачывае. Шурпатасць і бруд часам важней за знешні бляск і глянец. І комін менавіта з тых рэчаў: ён не паддаецца татальнай гламурызацыі, бо заўсёды забіты сажай і прапахлы дымам, як вантробы зацятага курца. Але ж праз яго можна патрапіць у хату ці, дакладней, у яе «сэрца».

Заканчэнне на стар. 10 »

# Хата: жыхары, гаспадары ды іншыя насельнікі

## Замалёўкі на палях сямейнага альбома

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

### Сэрца, страўнік і хатні дух

Што ў хаце галоўнае? «Падмуркі і сцены», — адкажа малады будаўнік. «Надзейны дах», — запэўніць гаспадар са стажам. «Абразы́», — запярэчыць строгі вернік. «Добрая печ», — падумае дбайная гаспадыня. І хоць кожны мецьме сваю рацыю, мне больш даспадобы апошняя думка: вядома, цэнтр хатняга сусвету — печка! Чорны гумарыст можа назваць яе філіялам пекла (хаця насамрэч усё наадварот, пекла — вялікая мадэрнізавая печ з функцыямі пенітэнцыярнай установы). Я ж мяркую, што печ ёсць сэрцам, душой і нават страўнікам хаты. Ужо колеры яе — чорнае нутро, чырвоныя муры і белая тынкоўка — сімвалізуюць асноўныя стыхіі: зямлю, полымя (кроў) і неба. Тыя ж сцены і дах, напрыклад, ёсць у хлява, і толькі печка робіць будынак хатай.

Печ — сакральная, бадай святарная рэч яшчэ з паганскіх часоў, бо яна дае цяпло, святло і хатні дух. Печ для хаты — як сонца для сусвету. Вакол яе круціцца хатняе жыццё: гатуецца ежа, сушацца грыбы ці зёлкі, абутак ды адзенне, прарастае солад, падыходзіць брага, грэюцца і гуляюць дзеці, спяць старыя, лекуюцца хворыя. Галоўнае ж магічна-пячное дзейства — агонь — рэгулярна ўзнікае ў яе чэраве і рэальна ўвасабляе жыццё ва ўсёй яго палкасці і красе.

Пра агонь нагаворана столькі, што лепш памаўчаць і лішні раз паглядзець на яго зыркае, няўлоўнае цела. Якое не памацаеш рукой, але адчуеш пякучы боль-перасцярогу — «не чапай мяне, мая прыгажосць смяротна небяспечная, любі мяне на адлегласці, і я буду табе карысны». І мы любім агонь, і баімся яго, і не можам без яго жыць, хаця нярэдка ад яго ж і гінем. Дзіўная любоў-страх, паранаяльная цяга да рызыкі, да балансавання на мяжы жыцця-смерці, у якой цяжка сабе прызнацца. А ці не ў гэтым сутнасць і галоўны цымус нашага існавання: каб стоячы «тут», заглянуць «туды», за край, і на імгненне адчуць сябе валадаром лёсу, гэткім пазачасовым назіральнікам таямніц сусвету. Інакш кажучы — на момант уявіць сябе проста... Богам.

«Быць Богам» — ці не самае спакуслівае жаданне чалавека! Між іншым, былі прыклады здзяйснення гэтай небывалай мары, — аб чым сведчаць рэлігійныя аповеды розных часоў і народаў. А калі было хоць аднойчы ў кагосьці, то чаму б таму не паўтарыцца зноў? Збег абставін, зман ілюзій — ерэтычных, эратычных ці проста эгацэнтрычных. Тут табе і старажытная вера ў агонь, і вечна-падступнае тленне сумніву, і зыркае полымя новай веры. Паспрабуйце, можа, і ў вас атрымаецца?..

Калі не лічыць стыхіяй нашу мову, то агонь — першая прыродная сіла, якую чалавек прыручыў, а печ, у такім выпадку, — першы спосаб, якім гэта атрымалася. Дзякуючы печы, мы можам любіць агонь без страху і боязі. Як белыя жаночыя вабноты здаюцца больш зманлівымі ў чорных уборах, так і прыгажосць агню становіцца больш эратычнай на чорным пячным фоне: калі языкі полымя ліжуць чэрань і, мяняючы колер з жоўтага на аранжавы, чырвоны ці нават зялёны і сіні, знаходзяць выйсце ў глыбіні похвы-коміна. Полымя струменіцца і праменіцца, трымціць і калышыцца, імгненна мяняючы форму і застаючыся нязменна жывым і няўрымслівым, пакуль ёсць крыніца гэтай жарсці — сухія дровы.



Хутка і дымна, патрэскваючы, гарыць ясная сасна. Нечакана, па-хуліганску «страляюць» яловыя дровы, раскідваючы вогненныя пырскі і дробнае вуголле. Ціха і бяздымна, як свечка, канае сухі алешнік, сыраваты ж — незадаволена шыпіць і пускае пухіры. І толькі калі ўсе дровы перагараюць і ў пячным чарноцці застаецца міргальна-рубінавае вуголле, прыходзіць ціхае цяпло і разуменне: ахвяра агню была недарэмнай. Бо пасля яго застаўся не толькі сівы бязважкі попел, але шумная патэльня з яечняй і шкваркамі, стос гарачых бліноў, чыгуны з капустай, куляшом ці проста варам.

А таксама пах, той невынішчальны пячны пах, які б'е ў нос чужынцу — насельніку шматпавярховых катухоў — і незаўважны для хатніх тубыльцаў. Напэўна, хатні дух складаецца і з іншых пахаў: вільгаці і зямнога водару, што ідзе з-пад падлогі, дрэва і глінянай тынкоўкі — ад сценаў, столі і пераборак, зёлак, кветак, раслін і паху саміх насельнікаў хаты, склад якіх залежыць ад сезону і ахайнасці гаспадароў. Гэты пах перадаецца гаспадарам і іх вопратцы і лёгка пазнаецца сярод разнастайных водараў і смуродаў у гарадскім гармідары. І ўсё ж пячны дух, бадай, галоўны ў гэтым букеце, мо й не самы выкшталцоны, аднак моцны, пазнавальны і неадменны, як пах хвоі ў лесе, свежых булак у пякарні ці выхлапных газаў на шашы. Вось толькі «неадменнасць» яго для хаты сталася не такой і адвечнай, як здавалася яшчэ нядаўна. Ды пра гэта крыху пазней, а пакуль прынюхаемся, хто яшчэ пахне ў хаце?

### Вайна ці мір? Мышы і каты́

Насамрэч гэтая па́ра не такая і парная. У яе могуць уклініцца, напрыклад, пацукі, якія канкуруюць з мышамі, але здольны паваяваць і з катáмі. Ці больш рэдкія канкурэнты — вужакі, якія палююць на мышэй і пужаюць катоў. Аднак тут не Палессе, вужы ў хатах не жывуць, а пацукі даволі рэдкія госці нават на падворку, а таму маем класічнае «мульцяшнае» супрацьстаянне: «вайну» катоў-котак з мышамі.

Насамрэч, па-першае, у жыцці з мышамі ваююць не каты, а людзі, якія карыстаюцца для сваіх мэтаў катовымі інстынктамі. А па-другое, стваральнікі мульцяшных прыгодаў чамусьці заўсёды на баку «братоў» нашых меншых — мышынага жыхарства, але ў рэальнасці якраз наадварот, то каты — чалавечыя песты і любімцы, а мышы — адвечныя шкоднікі, непрыяцелі і дыверсанты. З'едзеныя харчы, папсаваная маёмасць, заразныя хваробы і спецыфічны пах, — вось вынік мышынага, як у прынцыпе і любога іншага, кватаравання, у тым ліку і чалавечага.

А яшчэ — гэты нечаканы жаночы віск, які здараецца пры сустрэчы лепшай чалавечай «паловы» са жвавымі хвастатымі камячкамі. Жаночы віск сам па сабе феномен цікавы і непрадказальны, але страх жанок перад мышамі — містычнае. Не такі, здаецца, і страшны звер: някідкі шэры колер, пужлівасць, асцярожнасць, часам, праўда, і нахабства, не менш за жаночае, — але столькі гвалту, быццам бы ад страшнага злодзея ці монстра.

Кажуць, больш за жанчын мышэй баяцца толькі сланы. Дзіўная, на першы погляд, кумпанія. Аднак ёсць у іх яшчэ адна агульная рыса: «доўгі нос», які сунецца ўсюды, куды трэба і не трэба. Праўда, у сланоў ён завецца хобатам і дазваляе лацвей харчавацца, а вось у жанчын гэта ўсяго толькі... дапытлівасць.

Каты́ і коткі — галоўныя мышыныя апаненты, таксама маюць пахі, хоць у параўнанні з сабакамі (якія на вёсцы ў хатах не жывуць) лічацца чысцюлямі. Калі не звяртаць увагі на кашэчыя экскрэменты, у прынцыпе, так яно і ёсць, бо каты рэгулярна прымаюць «языковы душ» (не блытаць з «моўным»!), то бок проста вылізваюць сваё футра.

Назіраючы за гэтай гігіенічнай працэдурай, прыходзіш да высновы, што акрамя генетычна-рытуальнага тут ёсць іншыя прычыны: кату́ гэта прыносіць задавальненне. Я ніколі не лізаў сваё цела, за выключэннем рэфлекторнага злізвання крыві з ранкі на руцэ, але думаю, што для ката гэта не толькі падрыхтоўка да доўгага сядзення ў засадзе, але і праява... нарцысізму. Самалюбаванне і самазакаханасць, здавалася б, чыста чалавечая з'ява, але ў катоў і котак яна сустракаецца яшчэ часцей, чым сярод нас.

Практычна, кожны кот (як і котка) па сваім характары — эгаістычны сноб, індывідуаліст і самазадаволены гультай. Рэгулярнае вылізванне футра ды інтымных месцаў лішні таму доказ і проста вынік іхняга прыроднага самашанавання. Вядома, коткі не такія гультайкі, як каты, бо і мышэй ловяць лепш, і дбаюць пра сваё патомства, і гігіенічная «самазаханасць» іх таксама больш рэгулярная, а як па-жаночы, то і больш старанная.

Мо сённяшніх людзей вабіць у катах не столькі здольнасць лавіць мышэй (у кватэрах іх даўно няма), а вось гэты практычны нарцысізм, звычка да самаачышчэння і падтрымання сябе ў «добрай форме». І гэта не толькі феномен чыста знешняга «гламуру і сэксуальнасці», але і прыклад падтрымкі свайго фізіялагічнага здароўя, з якім у многіх цяпер ёсць сур'ёзныя праблемы.

Аднак у нашай хаце каты вадзіліся не дзеля эстэтыкі ці недахопу пад гаспадарскай рукой «жывой душы», а менавіта праз мышэй. Адсутнасць ката на працягу аднаго-двух тыдняў аўтаматычна прыводзіла да мышынага панавання: асмялелыя «шэрыя кватаранты» не толькі шамацяць у шуфлядах, точаць па начах харчы і нерухомую маёмасць, але і беспакарана ходзяць па хаце днём. Каты, і асабліва коткі, не дазваляюць ім такога раздольнага жыцця. Ёсць, праўда, атрута, якая часова можа адва́дзіць непажаданых жыхароў, аднак яна мае сур'ёзны недахоп: падохлыя мышы з-пад падлогі выпускаюць такі «нясмачны» дух, што на пэўны час робяць хату малапрыемнай для жыцця.

Таму вясковыя каты — незаменныя хатнія тубыльцы, вартавыя нямірнага суіснавання і раўнавагі з адвечным мышыным злом. А якое яшчэ зло бывае ў хаце?

### Гісторыя кватарантаў: «французы» і клапы

Гісторыя хаты пачалася ўлетку 1942 года, калі замест згарэлага хутара яе збудавалі тры браты, малодшаму з якіх не было і васямнаццаці. Па волі лёсу ён і стаў ейным гаспадаром (а яшчэ праз 40 гадоў маім цесцем).

Так выйшла, што ў першую ж восень у хаце з'явіліся кватаранты — яе акупавалі «французы». А паколькі акупаванай тады была не толькі хата і вёска, але і ўся краіна, то з'яўленне кватарантаў-вайскоўцаў і высяленне гаспадароў не вельмі каб здзівіла. Па меркаванні мясцовых усёзнаўцаў, то былі бельгійцы, бо гаргаталі між сабой картава, не па-нямецку, і з мясцовымі паводзілі сябе больш галантна, чым тылавікі-арыйцы. Але ж галоўнае, што здзівіла тутэйшы люд і дазволіла лічыць іх французамі, — новыя кватаранты елі жаб. Проста лавілі тутэйшых рапух і, раскаліўшы на вогнішчы накрыўку ад кацялка, дадаўшы крыху масла, пляскалі на гарачы метал бедных земнаводных, якія ў момант спякаліся. Сапраўды, такімі гурманамі і кухарамі-эстэтамі маглі быць толькі французы.

Немцы ж, як і беларусы, былі звычайнымі яйка-, сала- і бульбаедамі і не разумелі гэткіх гастранамічных выкшталцонасцяў. Не ведаю, ці адчулі тады голад з-за «французскай» прысутнасці нашы буслы, але мясцовая дзятва (а тым больш дарослыя) катэгарычна адмаўлялася ад прапаноў пакаштаваць еўрапейскі дэлікатэс. Чаго не скажаш пра цукеркі, якімі калі-нікалі кватаранты частавалі малых. Але кватараванне «французаў» мела і адзін станоўчы вынік.

У новай хаце разам з майном гаспадароў са старой сядзібы перасяліліся клапы. «Французы» вельмі хутка адчулі такое суседства і вырашылі праблему па-вайсковаму радыкальна. Пратравілі лавы ды сталы нейкай «хіміяй», а паяльнымі лямпамі прасмалілі ўсе шчыліны і пазы між бярвеннямі хаты, дзе б маглі хавацца начныя «дыверсанты». Гаспадары вельмі баяліся, каб не загарэлася толькі што збудаваная хата, але «антыпартызанская» аперацыя прайшла паспяхова, і кусучыя «кватаранты» зніклі.

Праз год прыбраліся і аматары жабаў, і з тых часоў ні клапоў, ні «французаў», ні іншых кватарантаў з захаду ці ўсходу ў хаце не было. Ну, а госці, сваякі, як потым і зяці, — то ўжо свае, мірныя «акупанты», з якімі гаспадарам даводзілася неяк суіснаваць у паднооленай хаце, — у пяцідзесятыя гады да вялікай прыбудавалі меншую палову і сенцы.

А жыццё ў «пяцісценцы» — то ўжо іншая, навейшая гісторыя, пра якую можна будзе распавесці іншым разам, як будзе болей часу. Пакуль жа мяне чакаюць сур'ёзныя справы: трэба бурыць сенцы і разбіраць рэшткі той самай печы, якая 70 гадоў была «сэрцам і страўнікам».

Вось такое бязлітаснае хатняе жыццё-быццё! Але ж, дзякаваць Богу, яно, як і гісторыя хаты, яшчэ працягваецца...

# Энцыклапедыст, пісьменнік і філосаф Дэні ДЗІДРО



Таццяна ШЫПІЛАВА

Французскі пісьменнік, бацька драмы, «суразмоўца» Кацярыны II…

Нарадзіўся ў невялікім мястэчку Шампань і сваёй дзейнасцю вызначыў рух грамадскай думкі Францыі XVIII стагоддзя. Прыгожа гучыць параўнанне яго розуму з шампанскім вінам: такі ж іскрысты ды ігрысты…

З'яўленне Дэні Дзідро (Denis Diderot) і яго галоўнай працы ўсяго жыцця лагічна ўпісваецца ў саму эпоху Асветы, колькі б палак у колы яму ні ўстаўлялі.

Дзейнасць асветнікаў абумоўліваецца ростам уплыву буржуазіі ў Еўропе XVII—XVIII стагоддзяў: арыстакратыя пачынае бяднець, банкрутаваць, абрастаць даўгамі, але пра сваю блакітную кроў, натуральна, не забывае, па-ранейшаму гледзячы на багацеючую буржуазію звысоку.

Пакуль не прагрымела Вялікая буржуазная рэвалюцыя, прадвеснікамі якой у тым ліку былі і энцыклапедысты на чале з Дэні Дзідро, Вальтэрам, Русо, Мантэск'ё і многімі іншымі аўтарамі. Вось тады буржуазія і выпрастала плечы і ганарліва падняла галаву. Дэмакратыя, Рэспубліка, роўнасць і іншыя ідэі прыйшлі менавіта ад усведамлення таго, што радавітасць — не паказнік розуму, а паходжанне не забяспечвае аўтаматычнай дабрадзейнасці. Выхадцы з сярэдніх і ніжэйшых класаў заявілі аб сваіх правах, усё менш паддаваліся рэлігійнаму ціску, патрабавалі лічыцца са сваімі інтарэсамі і патрэбамі, абапіраючыся на тэхнічны прагрэс і сямейныя каштоўнасці.

Царква ўсімі праўдамі і няпраўдамі спрабавала перашкодзіць выданню «Энцыклапедыі» Дэні Дзідро. Бо чалавек павінен быў проста верыць, а не задаваць пытанні аб паходжанні прыродных з'яў: лягчэй жа запэўніваць, што гром і маланкі — гэта божая кара, чым растлумачыць усё элементарнымі законамі фізікі. Але ж і асветнікі былі людзьмі цікаўнымі: адмаўляючыся ад рэлігійнасці, ставячы пад сумнеў не толькі веру, але і наогул існаванне Бога, тым не менш, яны як быццам працягвалі місіянерскую дзейнасць Хрыста, усім «убіваючы» самыя простыя хрысціянскія ісціны: аб дабрабыце, аб дабрадзейнасці, аб маральнасці. Маўляў, у нас ёсць дзесяць тысячаў законаў, каб выконваць дзесяць запаведзяў.



ENCYCLOPÉDIE,
OU
DICTIONNAIRE RAISONNÉ
DES SCIENCES,
DES ARTS ET DES MÉTIERS,
PAR UNE SOCIÉTÉ DE GENS DE LETTRES.

Mis en ordre & publié par M. DIDEROT, de l'Académie Royale des Sciences & des Belles-Lettres de Pruſſe; & quant à la PARTIE MATHÉMATIQUE, par M. D'ALEMBERT, de l'Académie Royale des Sciences de Paris, de celle de Pruſſe, & de la Société Royale de Londres.

*Tantùm ſeries juncturaque pollet,*
*Tantùm de medio ſumptis accedit honoris!* HORAT.

TOME PREMIER.

A PARIS,
Chez BRIASSON, *rue Saint Jacques, à la Science.*
DAVID l'aîné, *rue Saint Jacques, à la Plume d'or.*
LE BRETON, Imprimeur ordinaire du Roy, *rue de la Harpe.*
DURAND, *rue Saint Jacques, à Saint Landry, & au Griffon.*

M. DCC. LI.
AVEC APPROBATION ET PRIVILEGE DU ROY.

Тытул «Энцыклапедыі». Каля 1751 г.

У выпадку з Дзідро філасофскі светапогляд фармаваўся доўга і абрастаў новымі ідэямі і думкамі. Ад дбайнага каталіка ён перадолеў шлях да суровага матэрыяліста, які быццам і не адмаўляе існаванне вышэйшай сілы, але ў сваіх працах яе ігнаруе.

Дзідро хацеў пісаць не толькі аб навуках, не толькі аб гуманітарных ведах, але і аб навуцы механічнай, «ручной» — аб тым веданні, якім валодаў ягоны бацька, які вырабляў нажы і які набыў рэпутацыю выдатнага чалавека.

Дзідро верыў, што веданне выратуе чалавецтва, што розум — вярхоўная сіла, якая ўсё вылечыць, усё пераробіць на лепшае. Ён верыў у Розум, што і прывяло яго да разрыву адносінаў з Русо, які верыў у Пачуццё.

Гэтыя два геніі свайго часу ўвасаблялі два розныя і, на першы погляд, непрымірымыя напрамкі: класіцызм і сентыменталізм. Насамрэч жа адно выцякае з другога, але занадта рознымі былі іх эстэтычныя прынцыпы, занадта рознымі былі погляды на адны і тыя ж з'явы…

Для «Энцыклапедыі» Дзідро, рэдактарам якой ён быў 25 гадоў, пісалі лепшыя розумы Францыі. Вальтэр, Русо, Мантэск'ё, да іх можна дадаць д'Аламбэра, Кандыльяка, Босю, Бюфона, Гальбаха, Жакура, Цюрго, Фальконэ і многіх іншых, якія працавалі над стварэннем 35-ці фундаментальных тамоў.

Прадмова да «Энцыклапедыі», напісаная д'Аламбэрам, ёсць не што іншае, як эстэтычная праграма, маніфест усёй эпохі Асветы. Мэта Энцыклапедыі — аб'яднаць веды, расцярушаныя па паверхні зямной, выкласці іх у агульнай сістэме для людзей, з якімі мы жывем, і перадаць іх людзям, якія прыйдуць за намі: каб працы мінулых стагоддзяў не былі бескарысныя для стагоддзяў будучых, каб нашчадкі, стаўшы адукаванымі, сталі таксама больш дабрадзейнымі і шчаслівымі і каб мы маглі памерці ў разуменні выкананага перад чалавецтвам абавязку.

У мастацкіх творах Дзідро таксама заставаўся верным сабе, спачатку захапіўшыся стварэннем п'ес, потым пераключыўшыся на прозу. Самі па сабе яго п'есы былі не вельмі ўдалымі — ён быў нашмат мацнейшым у прозе. Важна іншае: да XVIII стагоддзя драматургія, як ні дзіўна, не ведала жанру драмы, задавальваючыся толькі трагедыяй і камедыяй. Але калі першая заўсёды распавядала аб перыпетыях вышэйшага саслоўя, а другая закранала толькі пацешныя і бытавыя моманты, то Дзідро лагічна вырашыў, што патрэбен нейкі сярэдні — як ён скажа — «сур'ёзны жанр», які ў сваёй



Партрэт Дэні Дзідро
працы Луі-Мішэля ван Лоа. 1767 г.

аснове будзе мець апісанне жыццёвых цяжкасцяў, нягодаў і канфліктаў таго самага асяроддзя, выхадцам з якога быў ён сам: буржуазіі. Бо і ёй знаёмыя страсці і пакуты выбару, і яна пакутуе ад недастатковага разумення і іншых чалавечых заганаў.

Так з'явілася драма, якая паступова цалкам выцесніла трагедыю з сучаснага тэатра. Але, безумоўна, самымі значнымі літаратурнымі творамі сталі аповесці Дзідро (нехта любіць называць іх раманамі, але ці не ўсё роўна?): «Манахіня», «Жак-фаталіст», «Пляменнік Рамо».

Пры ўсёй іх павучальнасці, усё гэтае маралізатарства пабудаванае на антытэзе. Дзідро выдатны тым, што ён як быццам зусім не дыдактычны. Але гэтае «як быццам» стварае толькі ілюзію, бо карыстаецца ён прыёмамі рэалістаў, прадказваючы іхнюю мастацкую эстэтыку.

Як ён гэта робіць? Працуе ад адваротнага: стварае герояў, максімальна на першы погляд антыпатычных чытачу, і праз іх заганы і часта абсурдныя развагі прыводзіць чытача да патрэбных яму высноў аб важнасці маральнасці і дабрадзейнасці, аб значэнні розуму і неабходнасці працаваць на карысць грамадства.

Яго героі супярэчлівыя, але менавіта ў гэтай іх супярэчлівасці і ствараецца праўда жыцця. У сваёй «Манахіні» ён вельмі шмат прад'яўляе прэтэнзій да царквы, і дзіўна было б чакаць, што святары прапусцяць усё гэта «міма вушэй». Жак-фаталіст і яго гаспадар падарожнічаюць і назіраюць жыццё ва ўсіх яго фарбах, ва ўсіх яго перыпетыях, кароткімі рэалістычнымі замалёўкамі ствараючы асноўны фон эпохі.

Ну а «Пляменнік Рамо»… Гэта будучыня ўсёй сусветнай літаратуры. Яго водгаласы мы ўбачым і ў Фаўсце, і ў Чычыкаву, і ў Жоржы Дзюруа. Яркі прадстаўнік багемы, ашуканец і махляр, але махляр «чароўны», сваёй зусім амаральнай філасофіяй ён здольны забалбатаць настолькі, што вы паверыце і паддадзіцеся ягоным чарам: «Не хваліце мне агульныя прынцыпы маралі, якія ва ўсіх на вуснах і нікім не выконваюцца… У прыродзе ўсе віды пажыраюць адзін аднаго; у грамадстве пажыраюць адзін аднаго розныя саслоўі… Я быў бы дабранадзейны, калі б дабрачыннасць вяла да дастатку, да багацця; але людзі хацелі, каб я быў блазнам, і я ім зрабіўся; калі ж я стаў заганным, дык гэта дадзена мне прыродаю, але кажучы "заганным", я толькі гавару вашай мовай, бо пры бліжэйшым разглядзе пытання можа аказацца, што тое, што вы называеце заганай, я называю дабрадзейнасцю».

Дзідро быў няскорным патрыётам. Ні зняволенне ў турму, ні незадаволенасць афіцыйнай улады і каталіцкай царквы не прымусіла яго перанесці выпуск свайго твора ў Прусію ці Расію, хаця яму ўпарта тое прапаноўвалі.

Дзідро быў запрошаны ў Пецярбург імператрыцай Кацярынай II, самаўладнай распусніцай, «прасветленай» дыктатаркай, якая гутарыла з ім доўгімі гадзінамі, слухала ўважліва і з цікаўнасцю, хоць і не ўсе ідэі, натуральна, падзяляла і разумела. Але, не зважаючы на некаторыя разыходжанні ў поглядах, яна выкупіла ягоную Бібліятэку, а самога Дзідро прызначыла сваім дарадцам-«смотрителем», забяспечыўшы Дэні годнае існаванне, бо ён марнеў у галечы, нягледзячы на небывалы поспех «Энцыклапедыі».



Дзідро і расійская царыца Екацярына II.
Ксілаграфія Альфрэда Рамбо.

І вымалёўваецца цікавая карціна: усхваліў буржуазію, стварыўшы для гэтага класа асобны жанр драмы, самімі гэтымі людзьмі ён не быў зразумелы. Розум мешчаніна, як правіла, да філасофіі ставіцца вельмі скептычна, не знаходзячы ёй практычнага прымянення, а таму — не бачачы ў ёй асаблівай карысці.

Такі кошт за веліч: адчужанасць ад сям'і, вечнае кляймо абыякавага бацькі, нядзячнага мужа, ерэтыка.

Але гэта не важна. Важна тое, што вялікі філосаф і асветнік пакінуў пасля сябе: непазбыўную веру ў чалавечы розум, у навуку, якая здольная ўсё пераадолець і прывесці чалавецтва да прасвятлення.

Ці не так?

## Прэмія імя Капусьцінскага

Прэмія імя Рышарда Капусьцінскага была заснавана 14 студзеня 2010 года Варшаўскай гарадской радай. Яна адзначае лепшыя «рэпартажныя» кнігі, якія закранаюць важныя праблемы сучаснасці. Узнагарода ўручаецца ў памяць выдатнага рэпарцёра, журналіста, публіцыста і паэта Рышарда Капусьцінскага, аднаго з найбольш часта перакладаемых польскіх аўтараў. Прэмія арганізаваная і фінансуецца ўрадам Варшавы. Суарганізатарам конкурсу з'яўляецца рэдакцыя «Gazeta Wyborcza».




У гэтым годзе шанец атрымаць Прэмію маюць сем польскіх кніг і тры пераклады з замежных моваў. Фінал юбілейнага 15-га конкурсу адбудзецца ў канцы траўня.

На конкурс сёлета было пададзена 145 кніг — рэкордная колькасць за ўсю гісторыю. Большасць з іх былі напісаныя на польскай мове, а 40 былі перакладзены з дзесяці розных моў (англійскай, французскай, іспанскай, шведскай, нямецкай, венгерскай, дацкай, нарвежскай, украінскай і славацкай).

Журы прэміі адабрала дзесяць найлепшых кніг, з якіх вылучыць пяць назваў-намінантаў. Гэта:

Марта Абрамовіч, «Ірландыя ўстае з каленяў»,
Марцін Капарос, «Ñamerica»,
Эрсін Карабулут, «Хронікі са Стамбула»,
Катажына Кабылярчык, «Іспанія крадзе сваіх дзяцей»,
Міхал Ксёнжэк, «Атлас дзірак і прабелаў»,
Ёанна Куцель-Фрыдрышак, «Хлопкі. Казка нашых бабуль»,
Фернанда Мельчор, «Гэта не Маямі»,
Малгажата Ноцунь, «Каханне — гэта мая віна. Пра жанчын з былога Савецкага Саюза»,
Павал Пенёнжэк, «Супраціў. Украінцы супраць расейскай інвазіі»,
Барташ Журавецкі, «Маральна чыстая радзіма. Пачаткі ВІЧ у Польшчы».

З гэтых дзесяці журы і вылучыць пяць назваў, якія ўвойдуць у фінал. У канцы траўня падчас Міжнароднага кніжнага кірмашу ў Варшаве будзе абвешчаны пераможца Прэміі 2023 года.

## Прэмія імя Гогаля

Адбылося пасяджэнне Камітэта па прысуджэнні Украінскай Літаратурнай прэміі імя М. В. Гогаля, падчас якога быў абраны сёлетні лаўрэат.

У 215-годдзе з дня нараджэння пісьменніка Мікалая Гогаля сярод 36 прэтэндэнтаў лаўрэатам выбралі Васіля Іванину за раман «Пакаянне гетмана Разумоўскага», які выйшаў у 2023 годзе.




Таксама члены Камітэта адзначылі вартыя ўвагі і прачытання творы наступных прэтэндэнтаў на сёлетнюю прэмію: Юрыя Грэшко — аповесць «У цэмры свецібь святло...», Аксану Грыцэнка — спектакль «Ацалеюць толькі помнікі» і Анастасію Шапарэнка — раман «Спелыя вішн».

Прэмія імя М. В. Гогаля прысуджаецца штогод празаікам, драматургам і сцэнарыстам, якія прытрымліваюцца традыцый творчасці М. В. Гогаля, узбагачаных канцэпцыямі гістарычнай рамантыкі, містыкі і сатыры, і якія раскрываюць нацыянальную самаідэнтыфікацыю.

## «Электронная літара»-2023

Літаратурная прэмія ў галіне электронных і аўдыёкніг «Электронная літара» была заснавана групай расійскіх кампаній «ЛитРес» у 2011 годзе, а з 2017 года яна ўручаецца digital-аўтарам і чытачам з усяго свету.

У шостым сезоне прэміі было пададзена 2337 заявак з 32 краінаў свету. Агульны прызавы фонд прэміі склаў больш за 23 мільёны расійскіх рублёў. Лаўрэатаў прэміі вызначыла спецыяльнае журы.

У галоўнай намінацыі «Кніга года» перамогу атрымаў аўтар з Бранска Мікалай Абоднікаў з містычным трылерам «Сірэны Амая» аб жорсткім злачынстве з рытуальным падтэкстам. Дзеянне кнігі адбываецца на выдуманым востраве Анежскай губы Сірэнах Амая.

«Голасам года» журы прызнала чытальніка Рыгора Мяцеліцу.

Таксама былі названы пераможцы ў намінацыі «Дэбют».

## «Благавіст»-2023

Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны абвесціў лаўрэатаў прэміі «Благавіст» за 2023 год.

Аўтарытэтнае журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя ўкраінскія пісьменнікі, назвала сёлетніх лаўрэатаў. Прэмію ў намінацыі «Проза» атрымаў Аляксандр Скараход за кнігу «Нявеста». У намінацыі «Паэзія» перамогу атрымаў Вадзім Крышчанка за зборнік «У чаканні вясны». У намінацыі «Творы для дзяцей» перамагла Валянціна Семяняка за шэраг кніг для дзяцей.




Літаратурная прэмія «Благавіст» уручаецца з 1993 года аўтарам лепшых твораў украінскай літаратуры, выдадзеных за мінулы год асобнымі кнігамі або надрукаваных у перыядычным друку.

## Законапраект пра кнігі «замежных агентаў»

У Дзярждуму РФ унеслі законапраект аб абмежаванні доступу да кніг замежных агентаў. У выпадку прынящця ён уступіць у сілу ў Расіі з 1 верасня 2024 года. Доступ да бібліятэчных кніг, напісаных т. зв. замежнымі агентамі, прапанавана абмежаваць.

Ініцыятыва тычыцца размяшчэння на стэндах і паліцах агульнадаступных бібліятэк кніг, напісаных замежнымі агентамі і асобамі, уключанымі ў рээстр, якія маюць дачыненне да экстрэмісцкай дзейнасці або тэрарызму. Канкрэтныя правілы, пералік літаратуры і парадак інфармавання аб ім бібліятэк зацвердзіць Міністэрства культуры РФ.

Рэвізіі таксама прапануецца падвергнуць фонды бібліятэк новых рэгіёнаў, якія за гады іх знаходжання ў складзе Украіны папоўніліся падобнымі творамі. «Нярэдка такая творчасць гераізуе нацыяналістаў і здраднікаў», гаворыцца ў тлумачальнай запісцы.

Дэпутаты прапануюць абмежаваць доступ да такіх кніг, «прынятых у фонды бібліятэк ЛНР, ДНР, Херсонскай і Запарожскай абласцей да дня іх уваходжання ў склад Расіі».

У згаданы «рэестр замежных агентаў», які складае Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі, уключаны каля пяцёх дзясяткаў творцаў, сярод якіх Барыс Акунін, Дмітрый Быкаў, Людміла Уліцкая, Барыс Грэбеншчыкоў, Віктар Шэндэровіч, Уладзімір Кара-Мурза, Юлія Латыніна, Андрэй Макарэвіч, Алег Радзінскі (сын пісьменніка Эдварда Радзінскага і ўнук савецкага пісьменніка Станіслава Радзінскага) ды іншыя.

## Маркес: «Да сустрэчы ў жніўні»

Перад смерцю Габрыэль Гарсія Маркес загадаў знішчыць свой апошні раман, а дзеці не паслухаліся яго.

Калі дзесяць гадоў таму памёр нобелеўскі лаўрэат па літаратуры Маркес, застаўся раман, які ён напісаў, пакутуючы ад дэменцыі. У апошнія дні жыцця ён сказаў сынам, што кнігу трэба знішчыць. Аднак яны кінулі выклік бацьку і апублікавалі твор. Кніга «Да сустрэчы ў жніўні» ўжо выдадзена на іспанскай мове і паступіла ў кнігарні.

Гэта невялікі раман — каля 120 старонак. Гісторыя яго разгортваецца вакол Аны Магдалены Бах, жанчыны сярэдніх гадоў, якая кожны жнівень адна едзе на востраў, каб наведаць магілу сваёй маці, і ў часе кожнай паездкі яна знаходзіць новага каханка. Нягледзячы на тое, што яна шчаслівая ў шлюбе ўжо больш за два дзесяцігоддзі...

Упершыню галоўнай гераіняй твора Маркеса становіцца жанчына. Калумбійскі пісьменнік, які памёр у 2014 годзе, вядомы тым, што стаў піянерам стылю магічнага рэалізму. Сярод яго найбольш вядомых твораў — «Сто гадоў адзіноты» і «Каханне падчас халеры», якія разышліся накладам больш за 50 мільёнаў асобнікаў.

Абгрунтоўваючы рашэнне апублікаваць раман, сын Гарсіі Маркеса Гансала сказаў BBC Radio 4, што ў канцы жыцця яго бацька «не меў магчымасці ацаніць сваю працу, бо ён бачыў толькі недахопы, але не цікавыя рэчы, якія былі там». Перачытаўшы тэкст, Гансала адзначыў, што ён не «лічыць яго такім катастрафічным, як думаў Габо», і што гэта было каштоўным дадаткам да яго працы, бо ён паказвае гэта па-новаму і з'яўляецца «ўнікальным». «Вядома, мы не збіраліся яго знішчаць, — сказаў ён. — У 2022 годзе мы ўзялі адну з версій і прачыталі... Мы зразумелі, што кніга завершаная, мы зразумелі, што не трэба шмат рэдагаваць. Ніякіх дапаўненняў, вялікіх зменаў няма. Так што ніякай дыскусіі сапраўды не было... Мы разважалі каля трох секунд — гэта была здрада бацькаваму жаданню. Але мы вырашылі: так, гэта здрада. Але на тое і дзеці». У рэшце рэшт, адзначыў ён, раман усё роўна трэба будзе апублікаваць, таму сям'я вырашыла апублікаваць яго версію, якую яны ўхвалілі і якая будзе абараняцца аўтарскімі правамі.

«Самай вялікай праблемай пры рэдагаванні няскончанага рамана было захаванне абсалютнай павагі да творчасці Габрыэля Гарсія Маркеса, — сказаў Крыстабаль Пэра, рэдактар фінальнай версіі. Гэта была надзвычай адказная задача. Вядома, мне не прыйшлося дадаваць ніводнага слова».

Пэра быў рэдактарам Гарсія Маркеса з 2001 года і адыграў сваю ролю ў заахвочванні яго скончыць раман. «Першы чарнавік ён напісаў у 2004 годзе. У 2011-м ён ужо пачаў губляць памяць і спыніў працу над раманам, — прызнаўся Пэра. — Але ён прысвяціў сябе таму, каб працягваць выпраўляць словы, фразы, удасканальваць іх, і менавіта ў гэтым праявіўся яго геній — у гэтых маленькіх выпраўленнях».

Пэра працаваў над пятым чарнавіком, з рукапіснымі заўвагамі Гарсіі Маркеса на палях — са зменамі і прапановамі.

У інтэрв'ю, якое Габрыэль Гарсія Маркес даў у Мадрыдзе, ён публічна прачытаў першы раздзел «Да сустрэчы ў жніўні» і сказаў, што піша серыю кароткіх раманаў з агульнай тэмай кахання сярэдняга ўзросту. Гэты раман быў часткай больш маштабнага праекта, у які, у прыватнасці, увайшлі «Пра каханне і іншых дэманаў» і «Нататнік з маімі сумнымі шлюхамі».

«Жанчыны адыгрываюць важную ролю ў раманах Гарсія Маркеса, пачынаючы з «Сто гадоў адзіноты» і ва ўсіх яго апавяданнях, але яны ніколі не адыгрывалі такой галоўнай ролі, як Ана Магдалена Бах, жанчына, якая вырашыла даследаваць сваю сэксуальнасць і свабоду, — адзначыў рэдактар. — Таму гэта раман, які сам яго сын Радрыга назваў феміністкім. Я думаю, што гэта адлюстроўвае ўсю творчасць Гарсія Маркеса і асабліва ролю жанчыны ў ёй. Думаю, таму гэта так важна».

Акрамя выхаду новай кнігі, прыхільнікаў творчасці Маркеса чакаюць новыя сюрпрызы. Netflix плануе стварыць серыял на іспанскай мове па матывах яго рамана «Сто гадоў адзіноты» 1967 года. Як піша New York Times, на працягу многіх гадоў Маркес атрымліваў шмат прапановаў экранізаваць сваю кнігу, але ён адмаўляўся, бо хацеў, каб сцэнар быў на іспанскай мове.

Кніга Гарсія Маркеса — не адзіны раман, выдадзены пасмяротна супраць волі аўтара. Перад смерцю ад сухотаў у 1924 годзе Франц Кафка загадаў свайму сябру Максу Броду спаліць усе яго творы. Аднак у 1925—1935 гадах Брод апублікаваў шэраг твораў, у тым ліку «Працэс», «Замак» і «Амерыка». Уладзімір Набокаў папрасіў жонку знішчыць яго апошні раман «Лора і яе арыгінал», калі ён не дажыве да яго заканчэння. У 2009 годзе, праз 30 гадоў пасля смерці Набокава, яго сын апублікаваў няскончаны твор, напісаны алоўкам на картках. Паводле легенды, рымскі паэт Вергілій прасіў спаліць скруткі, на якіх ён напісаў «Энеіду», бо баяўся, што не зможа скончыць працу перад смерцю.